ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Год выдання 39-ы
№ 41 (2502)
ПЯТНІЦА
10
ліпеня 1970 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ. Цана 8 кап.

## У НУМАРЫ ЧЫТАЙЦЕ:





**Кажуць, калі чалавек лётае ў сне, значыць, ён расце...**

**Гусцеюць прыцемкі. Аціхае вёска Верцялішкі. Накрываецца зорнай коўдрай, кладзе пад галаву туманы і росныя лугі, і лётае ў снах у паднябессі... Расце вёска!**

**На гэтым здымку — макет будучай вёскі. Такой яна будзе праз некалькі гадоў.**

*А якая вёска Верцялішкі — цэнтр калгаса «Прагрэс» Гродзенскага раёна— зараз, чытайце на стар. 4—5.*

Аляксей КУЛАКОЎСКІ

# ЗЯМЛЯ-МАТУХНА

*ЧЫТАЮЧЫ МАТЭРЫЯЛЫ ПЛЕНУМА...*

ПРА ЦЯБЕ, зямелька, дбае, цябе, зямельку, любіць і шануе і вясковец, і гараджанін. Гэта наша агульнае багацце, наш агульны клопат. Пра гэта ясна сказана ў рашэннях ліпеньскага Пленума ЦК КПСС.

Мы аддаём шмат увагі вёсцы, таму што наша імклівае жыццё, нашы планы вымагаюць усё больш высокага ўзроўню земляробства. Тут кожны нават самы малы промах, недагляд небяспечны. Не заўважыў сёння, не паправіў, не памог, не прыняў належных захадаў—заўтра будзе ўжо позна.

А жыццё ставіць перад вёскай усё новыя і новыя задачы. Яны вельмі розныя, гэтыя задачы: ёсць лягчэйшыя і цяжэйшыя, ёсць і даволі складаныя, але няма такіх, якіх нельга было б вырашыць. Ёсць, вядома, і цяжкасці, але зноў жа не такія, каб іх нельга было пераадолець, бо гэта цяжкасці росту.

Калгасная вёска заўсёды пераадольвала пэўныя складанасці на сваім шляху. Кожны этап яе развіцця меў свае асаблівасці. Сёння, скажам, няма ўжо той вёскі, дзе за праблему лічылася б знайсці высока пісьменнага чалавека. У кожным калгасе сёння столькі інтэлігенцыі, столькі высокаадукаваных спецыялістаў, колькі некалі і ў райцэнтры не было. Сёння звычайная вясковая прафесія не толькі аграном, заатэхнік, але і інжынер, эканаміст, нават архітэктар.

Але пры новым уздыме паўстаюць і новыя задачы, новыя складанасці, новыя эканамічныя і сацыяльныя праблемы.

Скажам, якой ужо новай, выгаднай і прагрэсіўнай з'яўляецца рэгулярная грашовая аплата працы ў калгасе. Тут і гарантыя, тут і стымулы: матэрыяльны, маральны. Цяпер толькі б жыць ды жыць калгасніку, ісці б ды ісці калгасам угору. Але і тут праблема. Аказалася, што калгаснік, атрымліваючы на свае працадні толькі грошы, не зацікаўлены ў тым, каб гадаваць на продаж жывёлу і птушку. Навошта яму, калі можа пайсці ў магазін і купіць мяса, малака, яек?

А што рабіць селяніну, калі ён пракорміць уласную жывёлу не вельмі і мог, бо калгас не даваў яму на працадні збожжа, сена і іншага фуражу?

Калі ж на сваіх сотках калгаснік выгадоўваў якое свінчо, то толькі на патрэбу сям'і.

А цяпер гэта папраўлена. Для таго, каб належным чынам заахвоціць калгаснікаў у гадоўлі жывёлы, партыя і ўрад пайшлі на тое, каб значна павялічыць закупачныя цэны на мяса і жывёлу ў жывой вазе (гэта робіцца не толькі для калгаснікаў, але і для калгасаў), рэкамендавана калгасам аплачваць працадні не толькі грашыма, а і натурай, акрамя таго,—прадаваць калгаснікам па цвёрдых цэнах збожжа, грубыя кармы.

Цэнтральная фігура сённяшняй вёскі—механізатар. На яго плячах сяўба, догляд пасеваў, уборка. Але механізацыя яшчэ не адчувае сябе гаспадыняй на ўсіх участках сельскагаспадарчай вытворчасці. Асабліва ў жывёлагадоўлі. Прыходзіцца рукамі і даіць, і гной вывозіць, і кармы гатаваць. А з аплатай? Калі на пастаяннай, як кажуць, «штатнай» рабоце калгаснік зарабляе добра, дык на сезоннай, часовай—не вельмі. Да таго ж, зімою ў многіх калгасах адчуваецца лішак рабочай сілы, людзі сядзяць часам без справы—асабліва жанчыны ды пажылыя мужчыны.

Але калі пачынаем гаварыць пра заробак, успамінаем толькі высокія лічбы. А яны, здараецца, засланяюць сутнасць справы. Гэтак бывае і з іншымі паказчыкамі. Трэба вучыцца бачыць з'явы ва ўсёй іх глыбіні і складанасці, да гэтага і заклікае ліпеньскі Пленум ЦК КПСС.

Напэўна, кіраўнікам калгаснай вытворчасці ў даным выпадку неабходна больш думаць аб тым, каб заняць рацыянальна ўсю рабочую сілу (там, вядома, дзе яе лішак). Можа адкрыць для гэтага ўсялякія дадатковыя віды калгаснай вытворчасці: майстэрні, цэхі, заводы і, такім чынам, павышаць кваліфікацыю калгасніка, рабіць яе больш універсальнай.

Перайначвае вёска сваё аблічча, сваю псіхалогію. Калгаснік ужо не хоча жыць у цеснай хаце, яму, як гарадскому жыхару, хочацца мець усе камунальныя выгоды: электрычнасць, газ, паравое ацяпленне і г. д. І яму дзяржава ўсё гэта дае, хоць можа пакуль што і не поўнасцю.

Многія сёлы зараз і не адрозніш ад гарадка—тыя ж вуліцы цагляных дамоў, тыпавыя кінатэатры, бальніцы, сталоўкі і г. д. У многіх хлебаробаў свае матацыклы ёсць і аўтамашыны. І правільна робяць у тых калгасах, дзе ўлічваюць сучасныя інтарэсы і запатрабаванні хлебаробаў.

Аднак жа і тут узнікаюць пэўныя праблемы, над якімі яшчэ трэба многа думаць. Быў я ў сучасных кватэрах калгаснікаў у Слуцкім раёне: два пакоі і санвузел на першым паверсе, тры пакоі і санвузел—на другім. Ёсць прасторнае скляпенне, дзе можна вольна размясціцца з усімі гаспадарскімі пажыткамі. А што пры доме ў таго калгасніка, які аплаціў або ў крэдыт заняў такую кватэру? Тут ён будзе мець пятнаццаць сотак зямлі (астатнія пятнаццаць яму дадуць у полі), будзе мець таксама сваю долю ў агульным, тыпавым хляўцу. Кватэрай ён, безумоўна, будзе задаволены, а астатнімі традыцыйнымі вясковымі выгодамі? Тут, відаць, многае страціць. Па-першае, на пятнаццаці сотках не асабліва разгонішся ні з садам, ні з агародам; па-другое, нязвыклая гэта справа хадзіць селяніну некуды ў поле абрабляць, даглядаць свой агарод; па-трэцяе, хлевушок для жывёлы двух-трох гаспадароў залішне маленькі, дзіўна, з якіх меркаванняў і разлікаў зыходзілі праекціроўшчыкі?

Ужо цяпер тыя калгаснікі, што жывуць у гэтых двухпавярховых цагляных дамах, павыбівалі нішы ў сценах сваіх закуткаў у агульных хлевушках і папрыладжвалі кашары для свіней, бо нават аднаму добраму парсюку цесна ў тым катушку. Для каровы прызначана пляцовачка толькі як стаць, а ўжо калі легчы ў вольнасці, то і няма дзе. А калі гаспадар захоча развесці яшчэ авечак, гусей, качак? А куды яму дзець курэй? Для каровы, для авечак трэба сена, трэба салома для падсцілу, бо інача не будзе гною на соткі. А куды скласці сена і салому? На вышках у хлявушку ёсць трошкі месца для гэтага, але туды можна ўціснуць фуражу хіба толькі на адну аўцу. А гаспадару ж яшчэ ўсё-такі трэба і дрывотня, і нейкі складзік для прысядзібнага інвентару, для спадручнай снасці.

На мае сумненні адносна ўсяго гэтага, слуцкія кіраўнікі далі зразумець, што ўсё, маўляў, тут прадумана, навукова абгрунтавана. А мне здаецца, што якраз не прадумана і не абгрунтавана.

Далі зразумець некаторыя таварышы, што ў хуткім часе не спатрэбяцца калгасніку ні карова, ні свінні, ні птушкі: зойдзе побач у магазін і ўсё купіць.

Калі яшчэ ўсё гэта будзе? Цяпер, наадварот, ставіцца заданне інтэнсіўней развіваць жывёлагадоўлю і птушкагадоўлю на прысядзібных участках калгаснікаў. Значыць, трэба не перашкаджаць, а памагаць калгасніку ў гэтай справе. І потым, яшчэ адно меркаванне вельмі мяне трывожыць: калі мы возьмем курс на залішнюю урбанізацыю, калі ўвесь час будзем думаць толькі пра тое, каб хутчэй зрабіць з вяскоўца гараджаніна, то многае страцім у яго духоўнай, псіхалагічнай сферы. Трэба, каб усё лепшае і перадавое ў адносінах тэхнікі, культуры, быту, што прыходзіць у вёску, не ўплывала адмоўна на традыцыйную любоў селяніна да зямлі, да родных прастораў, лясоў, рэк, да ўсяго ўкладу жыцця. Калі ён будзе даражыць усім гэтым, дык у яго ніколі не з'явіцца настрою сезонніка, часовага жыхара ў вёсцы. Ды і не толькі ў яго—у дзяцей і ўнукаў таксама.

Меўшы такую цвёрдую веру, калгаснік і працаваць будзе заўсёды творча, з натхненнем, і кваліфікацыю набудзе сталую, надзейную, і будавацца, усталёўвацца ён будзе з адпаведнай самавітасцю, каб і на нашчадкаў хапіла, і дзеці яго будуць вяртацца, пасля вучобы, дадому. Такім чынам зменшыцца залішняе ўцякацтва вясковай моладзі ў горад. Збліжэнне вёскі з горадам павінна ісці перш за ўсё па шляху вытворчасці, а не штучнага прыстасавання быту.

Ёсць нямала і іншых праблем у сучасным развіцці калгаснай вёскі. Усіх іх не ўспомніш, але мне хацелася б закрануць яшчэ два пытанні: меліярацыю і хімізацыю сельскай гаспадаркі.

Наколькі важныя і неабходныя гэтыя задачы, відно з матэрыялаў ліпеньскага Пленума ЦК КПСС. Я хацеў бы толькі звярнуць увагу на разумнасць і навуковасць гэтых надзвычай неабходных мерапрыемстваў. Факт, што ў выніку няўмелай меліярацыі, у асобных раёнах нашага Палесся пamялелі рэкі і азёры, зменшыліся або і зусім звяліся некаторыя віды нашай флоры і фауны, у асобных мясцінах пачаў узнімацца пры вятрах пагрозлівы тарфяны пыл. Цяпер нашы меліяратары працуюць з большым навуковым падыходам і дасканаласцю, але недахопы і промахі ў іх усё ж такі ёсць.

Што ж датычыць хімізацыі, то я тут спашлюся на свае салігорскія назіранні. Калійныя камбінаты даюць многа каштоўных угнаенняў. Гэта вельмі добра. У той жа час яны паступова засыпаюць карысныя пасяўныя плошчы так званымі «хвастамі»—адыходамі, што застаюцца пасля абагачэння калійных выкапняў. Наколькі мне вядома кожны камбінат можа засыпаць за год чатыры-пяць гектараў зямлі. А калі тры-чатыры камбінаты? У гэтых самых «хвастах» многа пажыўнай солі, ёсць таксама даволі ядавітыя рэчывы. Іх размываюць па плошчы дажджы. Іх разносяць вятры. Паўстае пытанне, што ж будзе тут, на маёй радзіме, праз некалькі год, калі нашы хімікі будуць па-ранейшаму з такой навуковай адсталасцю фарсіраваць здабычу калійных угнаенняў? Загінуць велізарныя плошчы, пасохнуць сады, змарнее ўвесь зялёны свет. Ці не варта было б ужо даўно падумаць аб тым, каб або пераапрацоўваць гэтыя адыходы і выдзяляць адтуль пажыўную соль і ўсё тое, што там ёсць карыснага, або апускаць гэтыя «хвасты» назад у тыя штрэкі, якія ўжо не патрэбны для карыстання.

Можна гэта зрабіць? Можна! На некаторых аналагічных рудніках іншых краін так робяць, і нам гэта па плячы.

Нават з гэтага, даволі беглага агляду некаторых пытанняў, задач і праблем нашай сельскай гаспадаркі яскрава відно, якімі гіганцкімі крокамі ідзе наша вёска наперад, як расце яна, развіваецца, як багацеюць духоўна, сталеюць матэрыяльна яе людзі. І ў той жа час—колькі складанасцей узнікае ў сувязі з гэтым небывалым ростам!

На жаль, наша мастацкая літаратура не вельмі сочыць за ўсімі гэтымі гістарычнымі зменамі, не паспявае за імі. Нішто надта не прыцягнула ўвагу пісьменнікаў, нішто не усхвалявала, не ўзяло за душу, не прымусіла ўзяцца за пяро ды паспрабаваць увасобіць у мастацкім творы ўсю веліч пераўтварэнняў як ва ўсім ладзе эканомікі, так і ў псіхалогіі людзей... Калі мы, бывае, і пішам пра вёску, то ўсё з пераважным позіркам у мінулае, а пра цяперашняе вясковае жыццё толькі два-тры нарысы можна было б назваць і то наўрад ці знойдзеш хоць адну праблему сапраўды надзённую, хвалюючую ў грамадскіх адносінах, патрэбную і сугучную нашаму часу. З сумам даводзіцца прызнаць, што ў нас у Беларусі пакуль што няма буйнага, значнага ў мастацкіх адносінах твора пра цяперашніх сельскіх працаўнікоў. Гэта адносіцца да ўсіх жанраў мастацкай літаратуры, у тым ліку і кінадраматургіі.

Нам, літаратарам, трэба натхнёнай творчай і грамадскай працай актыўна садзейнічаць усенароднай справе—далейшаму развіццю нашай сельскай гаспадаркі.

## ад пятніцы да пятніцы

## У ГЭТЫЯ ДНІ...

### ...ПАЧАЛІСЯ

выступленні народнага тэатра Мінскага трактарнага завода перад хлебаробамі калгасаў і саўгасаў Мінскай вобласці. Самадзейныя артысты прынялі ўдзел у традыцыйным свяце песні працы, прысвечаным 26-й гадавіне вызвалення Беларусі ад фашысцкіх акупантаў, якое адбылося ў калгасе імя Жданава Маладзечанскага раёна. Трактаразаводцы пазнаёмілі калгаснікаў з цікавай канцэртнай праграмай у якой прынялі ўдзел спевакі, танцоры, майстры мініяцюр і канферансу. У астатнія дні энтузіясты самадзейнага мастацтва штодзень наладжвалі па два выступленні: адно—у полі, на касьбе, другое — вечарам у клубе. Выступалі ў саўгасах «Маліноўшчына» і «Краснае», у калгасах імя Калініна, «За ўладу Саветаў», «Герой працы».

Гастрольнае падарожжа народнага тэатра трактаразаводцаў працягнецца па калгасах Вілейскага і Мядзельскага раёнаў.

У гэтыя ж дні ў сельскіх гледачоў Вілейскага раёна пабывалі эстрадны аркестр Мінскага тонкасуконнага камбіната, танцавальны калектыў Дома культуры будаўнічага трэста № 1, народны хор Дома культуры будаўнічага трэста № 5 і іншыя.

Тэатральны калектыў Палаца культуры камвольнага камбіната паказаў сельскаму гледачу спектакль «Сям'я» па аднайменнай п'есе І. Папова.

### ...ВЫСТУПЛЕННІ

беларускіх пісьменнікаў П. Броўкі, М. Танка, І. Шамякіна, І. Мележа, Я. Брыля, А. Якімовіча, П. Панчанкі і іншых паэтаў і празаікаў запісала на грампласцінкі Усесаюзная фірма грамзапісу «Мелодыя».

«Жывыя» галасы пісьменнікаў будуць добрым дапаможнікам для студэнтаў, вучняў старэйшых класаў, усіх аматараў літаратуры.

## У СЭРЦАХ ЛЮДЗЕЙ



Споўнілася 88 гадоў з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Янкі Купалы.

7 ліпеня, як кожны год у гэты дзень, на магіле вялікага песняра сабраліся родныя і блізкія, пісьменнікі, журналісты, супрацоўнікі Літаратурнага музея Янкі Купалы, чытачы. Жывыя кветкі, вянкі... І хвіліна маўчання ў знак бязмежнай любві і пашаны да чалавека, да мастака, чыя песня не сціхае ў сэрцы людзей (здымак уверсе).

А напярэдадні адбылося ўшанаванне памяці выдатнага беларускага паэта Пятра Фёдаравіча Глебкі, якому ў гэты дзень споўнілася б 65 гадоў.

На магілу пісьменніка быў ускладзены вянок ад Саюза пісьменнікаў БССР.

# ДЫЯЛОГ:
# БІБЛІЯТЭКАР—ПІСЬМЕННІК



Выступае Янка Скрыган. Фота М. ЯГОРАВА.

КАЛІ называюць лічбу 20.640 — колькасць масавых бібліятэк у рэспубліцы — і дабаўляюць, што яны ў сваіх фондах маюць больш 90 мільёнаў экземпляраў кніг, гэта заўсёды і радуе, і крыху ашаломвае. Бо каму невядома, што ў час Айчыннай вайны ўсе кнігі былі фашыстамі знішчаны або вывезены. Пасля вайны давялося пачынаць, па сутнасці, з нуля.

На навукова-практычнай канферэнцыі, якая днямі праходзіла ў фундаментальнай бібліятэцы Акадэміі навук БССР і якая падвяла вынікі спаборніцтва бібліятэк рэспублікі ў гонар ленінскага юбілею, гаварылася аднак, што наша бібліятэчная сетка ўсё яшчэ адстае ад патрэб сённяшняга дня, што яна павінна ўвесь час расці, — удасканальвацца. У кожным годзе новай пяцігодкі павінна ўваходзіць у строй не менш пяцісот новых бібліятэк.

На гэтай канферэнцыі прысутнічалі лепшыя работнікі рэспубліканскіх, абласных, гарадскіх, раённых, дзіцячых, тэхнічных і школьных бібліятэк, бібліятэк вышэйшых навучальных устаноў. Было праслухана шмат цікавых дакладаў, людзі абмяняліся вопытам, падзяліліся новымі формамі і метадамі працы, якія ўзніклі за час падрыхтоўкі да юбілею.

Але, бадай, самая цікавая падзея канферэнцыі — сустрэча бібліятэкараў з беларускімі пісьменнікамі. Не проста ў госці да «лоцманаў кніжных мораў», а для шчырай размовы аб надзённых патрэбах прапаганды беларускай літаратуры прыйшлі сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР Іван Шамякін, пісьменнікі Алесь Бачыла, Аляксей Зарыцкі, Адам Мальдзіс, Янка Скрыган, Браніслаў Спрынчан і Уладзімір Юрэвіч. Сустрэчу адкрыла начальнік Упраўлення культасветустаноў Міністэрства культуры Ж. Сінельнікава. Майстры мастацкага слова не толькі расказвалі пра свае творчыя планы, адказвалі на пытанні бібліятэкараў, чыталі свае творы. Паміж імі і бібліятэкарамі адбылася цікавая размова-дыялог. Ніжэй падаем яе запіс.

**І. Шамякін:**

— Бібліятэкары — нашы лепшыя і найпершыя сябры і чытачы. Яны пасрэднікі паміж пісьменнікамі і масавым чытачом, і ў гэтай сваёй якасці нам асабліва дарагія. Сёння хочацца перш за ўсё папрасіць прабачэння, што не можам так часта сустракацца з чытачамі, як таго ім і нам хацелася б. У мяне самога ўжо накапілася некалькі запрашэнняў у розныя канцы рэспублікі, але выбрацца ніяк не выпадае. То работа ў саюзе, то грамадскія абавязкі, цяжка нават выбраць час, каб сесці за стол, пісаць. А наша ж асноўнае рабочае месца — пісьменніцкі стол!

Але абяцаем вам, што пісьменнікі будуць выязджаць усё часцей, лепш разгорне сваю работу бюро па прапагандзе беларускай літаратуры, якое створана пры Саюзе пісьменнікаў. Яно ўжо ўмацавалася, мае дастатковыя сродкі, каб пасылаць нават вялікія групы пісьменнікаў. У Маскве такое бюро працуе ўжо сорак гадоў, даўно і на Украіне, толькі мы ўсё гулялі ў сціпласць.

Пабольшала і наша пісьменніцкая арганізацыя, яна аб'ядноўвае ўжо 270 чалавек. Праўда, у параўнанні з Грузіяй, мы яшчэ адстаем: там на 4 мільёны жыхароў 400 членаў Саюза пісьменнікаў. Мала ў нас драматургаў і кінадраматургаў. Мала пагэтаму добрых п'ес і кінасцэнарыяў. Наша кінастудыя «Беларусьфільм» па сваіх магутнасцях магла б выпускаць у два разы больш фільмаў, а не можа: сцэнарны голад. Зусім не асвоена пісьменнікамі тэлебачанне, а там жа створана цэлае аб'яднанне «Тэлефільм», яно таксама патрабуе добрых сцэнарыяў. Пра ўсё гэта я расказваю вам па шчырасці, як сваім сябрам.

Што хочацца пажадаць бібліятэкарам? Нягледзячы на тое, што часам падводзіць паліграфічная база, нашы выдавецтвы выпускаюць усё-такі нямала кніг. Калі ласка, данясіце іх змест, іх ідэі да народа. І не толькі нашы кнігі, але і класікаў, каб не задавальнялася моладзь толькі тэлевізійнымі ці кіношнымі варыянтамі раманаў і аповесцяў. Давайце ж і будзем змагацца, мы — якасцю сваіх твораў, вы — прапагандысцкай, выхаваўчай работай, каб чытач яшчэ больш любіў літаратуру.

**А. Філімонаў,**
**намеснік дырэктара Віцебскай абласной бібліятэкі:**

— Іван Пятровіч пастараўся зрабіць «упреждающий удар». Але гэта не выратуе ні яго, ні іншых пісьменнікаў ад крытыкі. Іншы раз праводзяцца такія цікавыя канферэнцыі па творах беларускіх пісьменнікаў, і самому аўтару запрашэнне пасылаем заранёй — не едзе! Толькі некалькі разоў Іван Новікаў быў на канферэнцыі па сваёй кнізе «Тварам да небяспекі». Уяўляеце, якая гэта вялікая падзея для чытачоў, калі ў зале сядзяць і аўтар, і героі кнігі, які выхаваўчы, эмацыянальны зарад нясе такая сустрэча! А яны ж, аўтар і яго героі, яшчэ і выступаюць, расказваюць, як усё было, як расшуквалася па крупінцы, як пісалася...

Шкада, што такіх сустрэч мала. А Маякоўскі неяк умудрыўся са сваёй паэмай «Кастрычнік» аб'ехаць ледзь не ўвесь Савецкі Саюз, выступіць 270 разоў! Як ён рашаў праблему камандзіровачных? І ён не проста выступаў, а адказваў на сотні запісак, кожнае выступленне было нібы бой за Савецкую ўладу, за маладую савецкую літаратуру... Ды зрэшты, калі справа ўпіраецца ў дарожныя расходы, то бібліятэкі заўсёды знойдуць на гэта сродкі.

А бюро прапаганды літаратуры зарана яшчэ хваліць. Летась бібліятэкі вобласці заключылі каля ста дагавораў з гэтым бюро на пісьменніцкія выступленні. І, думаеце, хоць адзін быў выкананы? Не. Калі і прыязджалі пісьменнікі ў які раён ці горад, то ў бібліятэку нават і не заглядвалі. Пра якасць іх выступленняў, пра прынцып камплектавання брыгад я гаварыць не буду. Тут вельмі многа можна было б гаварыць. Я проста яшчэ раз падкрэслю: як сёння можна весці гаворку аб кантактах у прапагандзе беларускай літаратуры, калі яшчэ сустракаюцца такія рэчы?

**Л. Бэр,**
**загадчыца Бабруйскай цэнтральнай гарадской бібліятэкі:**

— Леў Касіль назваў бібліятэкараў сваімі дыспетчарамі. Так, мы даем кнізе ход, хоць добрая кніжка і сама працуе на сябе. Мы стараемся рабіць усё, каб вашы кнігі чыталі, ведалі, любілі. Зараз наша бібліятэка працуе з тэмай «Беларускі раман». Робім спецыяльныя стэнды і выстаўкі, праводзім гутаркі, канферэнцыі, вывешваем анатаваныя спіскі літаратуры аб раманах. І, ведаеце, уся серыя карыстаецца вялікім попытам. Памажыце ж і вы нам, давайце з'яднаем нашы намаганні!..

Прабачце, таварышы пісьменнікі, але ці не занадта вы прафесіяналізуецеся, адрываецеся ад жыцця, ад мас? Прабачце, Іван Пятровіч, але некалі, як запрашалі мы вас яшчэ на канферэнцыю па «Глыбокай плыні», дык мо яшчэ і пісьмо да вас не дайшло, а вы ўжо прыехалі. А цяпер запрашалі, каб разам абмеркаваць «Снежныя зімы», не дакліканіся. А дарэмна вы не прыехалі, было шмат цікавых, крытычных заўваг, было што паслухаць. Тады адчувалі, значыць, патрэбу ў такой сустрэчы, а цяпер — махаеце рукою... А мы хацелі б, каб вы ведалі настрой і думку чытача, каб сэрцы нашых чытачоў вы і надалей трымалі на сваіх далонях...

**В. Лявончыкаў,**
**выкладчык бібліятэчнага факультэта Мінскага педінстытута:**

— Не толькі слабая секцыя драматургаў і кінадраматургаў. Паглядзіце, хто з пісьменнікаў піша на краязнаўчыя тэмы? Адзін, два — і ўсё... Як быццам гэта няўдзячна, як быццам перасталі мы ўсе любіць свой край, ганарыцца сваёй рэспублікай, быццам усё ўжо і самі мы ведаем і няма пра што расказаць усяму свету. Я чытаю курс краязнаўства на бібліятэчным факультэце, я добра адчуў на сабе, як цяжка бывае падбіраць для лекцыі добрыя матэрыялы, спасылкі, літаратурныя крыніцы. А што ўжо гаварыць пра бібліятэкараў. Сёння іх тут поўная зала, і любы вам скажа, што акрамя матэрыялаў, здабытых іх саматужнымі пошукамі, выразак з газет няма чаго сур'ёзнага ставіць на паліцу ў кутках краязнаўства. Нічога не парэкамендуеш чытачам з твораў нашых пісьменнікаў аб сваіх родных мясцінах, раёнах...

У 30-я гады рабілася вельмі шмат па вывучэнні сваёй Бацькаўшчыны, многа і пісьменнікі пісалі, і кніг многа выдавалася. Выходзіў спецыяльны часопіс «Наш край», працавала пры АН БССР Цэнтральнае бюро краязнаўства і безліч такіх гурткоў на месцах. Тое, што пачынае выходзіць бюлетэнь «Помнікі культуры і архітэктуры Беларусі» — добра, але ж ён не заменіць поўнасцю такога часопіса, якім быў «Наш край». Мы просім вас сёння, таварышы пісьменнікі, дайце бібліятэкарам, дайце ўсім чытачам, народу такі часопіс, зрабіце ўсё, каб яго хутчэй адкрылі. Карысць для справы будзе вялікая.

**А. Зарыцкі:**

— Вельмі карысна сустрэцца з людзьмі, якія штодзённа маюць справу з кнігай, любяць яе, прапагандуюць. Можа, у наш адрас і залішне крытыкі было, трэба было б больш шукаць пунктаў, у якіх нашы інтарэсы ўзаемна стыкуюцца, і гаварыць пра тое, як і ў якіх сферах развіваць кантакты. Пісьменнікі Беларусі робяць за год па некалькі тысяч выступленняў, стараюцца сустрэцца з чытачамі пры кожным зручным выпадку. Толькі трэба ведаць адно: хочаш сустрэцца з паэтам ці пісьменнікам — працягні руку да паліцы з кнігамі, вазьмі яго творы. Калі добрая кніга — усё там ёсць, што рабіў, што робіць і думае, што яго непакоіць і турбуе, па чым баліць сэрца. Увесь аўтар — у кнізе.

А то, калі заняцца адным выступленнямі, расказамі, пра што пішаш ці думаеш пісаць, то не будзе калі і за пяро ўзяцца. І ўлічыце яшчэ адну акалічнасць. Часам пісьменнік і чалавек цудоўны, і піша добра, і вас, чытачоў, любіць і паважае, а вось выступае кепска. Не ўмее проста выступаць, хоць забі. Нашто ж тады караць такімі сустрэчамі і яго, і вас?

**Ул. Юрэвіч:**

— Мы вельмі шануем працу бібліятэкараў, вы — прыёмныя бацькі нашых дзяцей. Лёс кнігі ў многім залежыць ад таго, у якія рукі трапляе. Паглядзіце, як чалавек чытае кнігу, калі яна яму падабаецца, калі ён захоплены ёю. Чытач нібы зліваецца з кнігаю ў адно, ён нібы і сам сведка і ўдзельнік падзей. Бібліятэкар і павінен памагаць рабіць такія цуды, знаходзіць чытачу тыя адзіныя кнігі, якія яму патрэбныя і цікавыя. Уменне прапанаваць кнігу залежыць ад вашай кваліфікацыі, вашай зацікаўленасці ў рабоце, калі хочаце — таленту, выхаваўчых здольнасцяў. І тады кожны мудрэц і вучоны, кожны пісьменнік і настаўнік знойдзе свайго чытача, нібы возьме яго за руку: «Ідзі за мною!»

Тут многа гаварылі пра сустрэчы чытачоў і пісьменнікаў. Не трэба, каб яны ператвараліся ў літаратурна-эстрадныя канцэрты. Пісьменніку цікава ведаць, што ўзнікла ў чытача пры чытанні твора, якія думкі і пачуцці. Каб пісьменнікі лепш гэта ведалі, намнога больш было б і добрых кніг.

Усе гавораць, што любоў да кнігі, ахвота да чытання зараз меншаюць. Многім кнігу замяняе кіно, тэлеперадача, футбол. Мне гаварылі вопытныя педагогі-літаратары, што амаль палавіна школьнікаў не чытаюць кніг, а чакаюць, калі будуць паказваць фільмы. Гэта кепска, таварышы. Нават у наш век бурнага развіцця тэхнікі і інфармацыі, кніга не старэе, застаецца найвялікшым цудам цывілізацыі. Кожнае новае пакаленне адкрывае для сябе свет кнігі. Навучыць чытаць і любіць кнігу, зрабіць тое, чаго не дарабляе школа — ваш, таварышы бібліятэкары, абавязак. Мо гэта парадокс? Не. Чытаць трэба сэрцам, а не толькі вачыма, не толькі сачыць за развіццём сюжэта. Трэба, каб моладзь чытала і выхоўвалася.

Я разумею, што вучыць чытаць у такім узросце цяжка. Але трэба! Я памятаю, як некалі захапляўся «Сістэмай прыроды» Карла Лінея, «Асновамі хіміі» Мендзялеева. А лекцыі Ферсмана па геахіміі! Колькі ў іх усхвалявачасці, эмоцый, якая дасканалая форма! Гэта ўсё не толькі навуковыя працы, але і, калі хочаце, мастацкія творы. А хто іх цяпер чытае, захапляецца? Адзінкі.

Усе сродкі ў ход пусціце — і агульныя і індывідуальныя. Толькі папенш фармалізму і аляпаватасці ў афармленні вітрын, бо яны часам не прыцягваюць чытача, адпуджваюць.

Псіхалогія успрыняцця твораў, як і псіхалогія творчасці, распрацаваны яшчэ слаба. І вы, і мы многае яшчэ робім інтуітыўна. От каб больш займаліся бібліятэкары псіхалогіяй чытання, выхаваннем чытачоў, не грузлі ў справаздачах аб колькасці кнігавыдач і ахопленых чытачоў — я лічу, што гэта ўсё-такі не галоўныя паказчыкі ў рабоце, — каб больш стваралі інстытутаў чытацкіх меркаванняў, вынікі б мелі мы лепшыя. А каб нашы выдавецтвы больш прыслухоўваліся да голасу гэтых чытацкіх інстытутаў, голасу пісьменнікаў, супрацоўнікаў Інстытута літаратуры АН БССР, тады б і іх тыражная палітыка была б больш рэальная, больш выпускалася б сапраўды патрэбных кніг.

Безліч недахопаў у камплектаванні сельскіх і школьных бібліятэк. Пацікаўцеся: на паліцах часам і многа стаіць, а кніг класікаў беларускай і рускай літаратуры амаль няма. Для малых бібліятэк гэта проста недаравальна, і вы, прадстаўнікі раённых, абласных і цэнтральных бібліятэк павінны ў гэтай справе сказаць сваё важкае слова.

**Заканчэнне на стар. 8—9.**

## ВІНШУЕМ З УЗНАГАРОДАЙ!

*За заслугі ў развіцці беларускай савецкай літаратуры і ў сувязі з сямідзесяцігоддзем з дня нараджэння пісьменнік Уладзімір Мікалаевіч Дубоўка ўзнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.*

# ВЕРЦЯЛІШКІ ГЛЯДЗЯЦЬ У БУДУЧЫНЮ

ПА ЗАЛІТАЙ сонцам вуліцы кацілася дзіцячая каляска. Маленькія колы бясшумна беглі па разагрэтым асфальце. У калысцы спала малое.

Я глядзеў услед і думаў, што калі маленькі жыхар Верцялішак падрасце, дык не зможа нават уявіць, якой была калісьці вёска. Бо і зараз Верцялішкі — прыгожы пасёлак, двухпавярховыя катэджы, асфальт, жывая зялёная агарожа.

Але нямала тут і іншых прыкмет, якія сведчаць аб глыбокіх, карэнных зменах у жыцці сучасных калгаснікаў. Адна з важнейшых — непазнавальна змянілася праца земляроба, яе характар. Большасць цяжкіх работ узялі на свае плечы машыны.

Успомнілася, як я званіў у Верцялішкі з Гродна. Набіраю нумар:

— Дыспетчар слухае, — пачуўся ў трубцы бадзёры жаночы голас.

— Прабачце, відаць, я не туды трапіў. Я званю ў калгас «Прагрэс»...

— Так, гэта і ёсць калгас «Прагрэс». Дыспетчар Талочка слухае вас...

Аказваецца ёсць на вёсцы і такая пасада. Мне захацелася абавязкова заглянуць да гэтага дыспетчара.

Сустрэў мяне дырэктар мясцовага Дома культуры Сяргей Шапавалаў.

— А дыспетчар ужо званіла мне пра вас, — усміхнуўся ён і прапанаваў агледзець яго ўладанні. Але я сказаў, што Дом культуры буду «вывучаць» вечарам, і мы пайшлі ў кантору калгаса. Там Сяргей пазнаёміў з галоўным эканамістам арцелі, важаком калгасных камуністаў Раісай Аляксандраўнай Сініцынай.

Невысокая, з заклапочаным тварам жанчына рыхтавала даклад да чарговага сходу. Будуць абмяркоўваць на ім, як палепшыць арганізацыю працы. Эканаміст — гэта свайго роду штурман, які пракладвае курс калгаснага карабля.

— Сёе-тое мы зрабілі, каб праца была арганізавана па-людску. Гады тры ў нас дзейнічаюць звенні канчатковай прадукцыі. Атрымліваюць яны зарплату не за асобныя работы, а за вырашчаны ўраджай. Звенні поўнасцю апраўдалі сябе. І не толькі на полі. Зараз—сенакос. Цяжкая работа. Шмат напісана вершаў і апавяданняў пра касцоў, пра тое, як звіняць косы, пахнуць травы. Гэта сапраўды паэтычна... Праўда, здаралася лугі да восені стаялі някошаныя. А цяпер...

Так, зараз на лугах усё робіцца інакш. Працуе адно механізаванае звяно — пятнаццаць механізатараў. На ўзбраенні іх — поўны комплекс машын. І адно звяно нарыхтоўвае кармы для ўсяго калгаса. А іх трэба шмат, бо калгас—мяса-малочная гаспадарка.

Раіса Аляксандраўна павяла гаворку аб ураджаі, назвала мноства красамоўных лічб. Летась у калгасе сабралі з гектара па дваццаць чатыры цэнтнеры збожжа, сто сорак — бульбы, трыста пяцьдзесят — цукровых буракоў. На сто гектараў сельгасугоддзяў атрымана больш як па пяцьсот цэнтнераў малака і каля паўтараста мяса.

— Але тое, што было ўчора, ужо не задавальняе сёння, тым больш не задаволіць заўтра. Трэба расці. Ёсць у нас цікавы перспектыўны план. На яго аснове з дапамогай супрацоўнікаў Навукова-даследчага інстытута эканомікі сельскай гаспадаркі створан план сацыяльнага развіцця калгаса. План грунтоўны. У ім шмат раздзелаў. А сутнасць адна: культура працы, культура побыту, развіццё духоўнай культуры...

Расказвала Сініцына спакойна, задуменна. У паперы ні разу не заглянула.

Мне нямала даводзілася сустракацца з калгаснымі эканамістамі. Здараліся і такія, што добрую гадзіну корпаліся ў сваіх гросбухах, каб знайсці патрэбную лічбу. Не кожны мог толкам расказаць, як расце ўзровень рэнтабельнасці гаспадаркі. А гэтая сціплая жанчына да драбніц ведае эканоміку свайго калгаса і можа адказаць на любое пытанне.

— Толькі вось, ведаеце, закапалася я трохі...—уздыхнула яна.— Трэба пісаць дысертацыю. Усё для гэтага ёсць, акрамя часу. Суткі малаватыя...

Так, клопатаў у камандзіраў сельскай гаспадаркі хапае. І працуюць яны шчыра. А зараз, пасля ліпеньскага Пленума нашай партыі, які паставіў задачу арганізацыі ўсенароднай барацьбы за павышэнне ўраджайнасці ўсіх сельскагаспадарчых культур, павелічэнне вытворчасці прадуктаў жывёлагадоўлі, яны будуць працаваць яшчэ з большым натхненнем.

ДЫСПЕТЧАРСКАЯ — невялікі пакой. Два сталы. На адным—тэлефоны, а на другім—аўтаматычная тэлефонная станцыя. Каля сцяны вялікі стэнд з мноствам рознакаляровых лямпачак. У куце цьмяна паблісквала радыёстанцыя. Дыспетчар — смуглявая, трохі паўнаватая, але энергічная, рухавая жанчына, гаварыла якраз па тэлефоне:

— Дык што з трактарам, што зламалася? Не ведаеце... Перадайце механіку, хай тут жа «павулканіць» мне,—дыспетчар палажыла трубку, павярнулася да мяне. — Дык гэта, значыць, вы званілі з Гродна? Сядайце, калі ласка...

Заўважыўшы, як я азіраюся па баках, усміхнулася:

— Не лёгка ў нас адразу раскумекаць, што да чаго. Пачакайце, раскажу. Трэба толькі знайсці механіка. Званілі з прахадной, кажуць, трактар у майстэрню прыгналі. Касіў зялёную падкормку, і нешта зламалася. Калі сур'ёзнае што, то пашлем другі.

Зоя Ягораўна ўзяла мікрафон, які ляжаў на падаконніку і, гледзячы на гарод, дзе лапушылася бульба, прагаварыла:

— Вулкан-3, вулкан-3. Я—вулкан. Прыём!..—дыспетчар хвіліну памаўчала. — А, нарэшце... Дзе ты, даражэнькі, бадзяешся? Так, так... Разумею!

Не паспела Зоя Ягораўна пакласці мікрафон, як заліўся адзін тэлефон, другі. Механізатар хацеў ведаць, колькі на складзе «нітрафоскі». Потым зайшла маладая дзяўчына-агітатар. Ёй трэба была апошняя зводка па малаку.

Так і не выбрала часу Зоя Ягораўна расказаць пра сваю гаспадарку. Але я і так ужо бачыў, што чалавек яна ў калгасе вельмі патрэбны, што шмат у яе спраў, і кожную вырашала яна хутка і аператыўна.

У дыспетчарскі пункт па правадах і па радыё паступае розная інфармацыя, а адсюль у самыя аддаленыя куткі калгаса ідуць распараджэнні, парады. Радыёстанцыі ўстаноўлены на ўсіх фермах, у майстэрні, на машынах-лятучках, машынах старшыні калгаса і спецыялістаў. У радыусе паўсотні кіламетраў яны забяспечваюць надзейную сувязь. Неўзабаве ў калгасе будуць устаноўлены дыктафон, магнітафон і фотатэлеграф.

— Уяўляеце? Едзе наш старшыня па полі і адразу можа, не выходзячы з машыны, перадаць распараджэнне ў кантору ці ў брыгаду, даць разнос, калі трэба... Жартую—разносы ў нас бываюць рэдка. Калгас ідзе ўгору. Зараз працаваць намнога лягчэй,— Зоя Ягораўна неяк па-жаночаму падперла шчаку рукой. Твар яе спахмурнеў.—А як пачыналася? Ой, цяжка было... Я з першага дня ў калгасе, дваццаць гадоў. У нас тады было хутароў процьма. Працавала я звеннявой, потым брыгадзірам. От папахадзіла па хатах, па падваконні. Пакуль, бывала, абойдзеш усіх, выправіш на работу... Выпраўляеш, а ў самой душа баліць, бо ведаю, не будзе чаго палучаць. І ўсё-такі працавалі людзі шчыра. Памалу багацеў калгас. Ну, а зараз, дык вы самі бачыце, што мы маем. Сіла! Трактараў—больш паўсотні. Восем камбайнаў, два дзесяткі аўтамашын, паўтараста электраматораў. У нас поўнасцю механізаваны амаль усе работы ў паляводстве. А паглядзіце, якія нашы кароўнікі...

Сапраўды, уявіце сабе прасторнае, залітае святлом памяшканне. Усюды чысціня. Чырвоны куток, бытавыя пакоі даярак, душ. Машыны вывозяць гной, машыны сочаць за работай вакуумных даілак...

ДЛЯ СЕЛЬСКАЙ гаспадаркі спрадвеку характэрна сезоннасць. Прыйшла вясна — трэба араць, сеяць. А там, глядзіш, ужо сенакос, за ім—жніво. Прыйшла восень — работ восем. А ўзімку — зацішша. Задумаліся ў праўленні калгаса: як зрабіць так, каб круглы год быў у людзей занятак? Выручылі падсобныя промыслы. У калгасе вырабляюць тару, бетонныя слупкі, тратуарную плітку. І людзі занятыя і немалы прыбытак калгасу.

І ўсё ж асноўная сіла цяпер на сяле—механізатары, людзі, якія добра валодаюць рознай тэхнікай.

Неяк, гадоў пяць назад, у мяне была цікавая размова з адным старшынёй калгаса з Баранавіцкага раёна.

— Дзіўная рэч. Я ведаю, колькі будзе ў калгасе кароў, цялят, парасят праз два, і тры, і пяць гадоў. А колькі трэба будзе мець людзей, каб іх дагледзець, якія трэба будуць спецыялісты і колькі — не ведаю. І ніхто ў нас не ведае. Гэта, браце, складаная рэч—баланс працоўных рэсурсаў... — апраўдваўся старшыня.

А ў плане сацыяльнага развіцця калгаса «Прагрэс» прадугледжана і гэта: колькі трэба будзе механізатараў, колькі іншых спецыялістаў—у кожным годзе наступнага дзесяцігоддзя. І праўленне калгаса ўжо ведае, якога спецыяліста ў якім тэхнікуме ці прафесіянальна-тэхнічным вучылішчы прасіць, дабівацца. Вочы ў праўлення не заплюшчаныя.

ХТО ЖЫЎ у вёсцы ў пасляваенныя гады, той ведае, як нялёгка здабывалася сена, дровы, а зімой і вада. Мне, як і многім маім аднагодкам, часцяком даводзілася вазіць дровы на саначках з лесу. Прыйдзеш са школы, сякеру пад паху, за санкі—і ў лес. І так нацягаешся, што ні рук, ні ног не чуеш... Для многіх вяскоўцаў дровы і сена—немалы клопат і зараз.

Яшчэ ў дваццатыя гады У. І. Ленін пісаў: «...Пытанне аб паляпшэнні побыту вялізнай большасці насельніцтва—сялянскага насельніцтва—для нас пытанне карэннае». Кіруючыся гэтым ленінскім запаветам, у Верцялішках зроблена шмат чаго, каб жылі калгаснікі, не горш, чым у горадзе. Ёсць газ, водаправод, гарачая вада—усе камунальныя выгоды. У людзей не баліць ужо галава пра дровы.

Апошнія пяць гадоў Верцялішкі раслі, як на дражджах. Паўз шашу з'явілася Маладзёжная вуліца. Амаль перпендыкулярна ўпёрліся ёй у бок Юбілейная, Савецкая, Працоўная—там жывуць механізатары, жывёлаводы.

Пасёлак будуецца па генеральным плане. Праекціроўшчыкі выкарысталі дасягненні сучаснай архітэктуры, багатыя традыцыі народнага дойлідства, і таму домікі маюць прыгожы, вабны вонкавы выгляд. Да 1975 года закончыцца будаўніцтва першай чаргі пасёлка на дзве з паловай тысячы чалавек. Сюды перасяляцца калгаснікі з васьмі вёсак. На будаўніцтва калгас выдаткуе больш трох мільёнаў рублёў.,

Не толькі сучасная кватэра, электрычнасць, газ, тэлевізар — новае ў быце. Гэта, бадай, можна знайсці ва ўсіх вёсках. Мяне ўразіла іншае: многія калгаснікі адмовіліся ад каровы, ад той самай каровы, без якой нельга, здаецца, уявіць сельскі двор.

— Зразумелі людзі, што можна абыйсціся без рагулі. Малако прадае калгас. Бяры колькі хочаш—і смачнае, і таннае. А з каровай жа клопату многа, — старшыня сельсавета Леанід Георгіевіч Юрачка ўскалмаціў густы русы чуб, потым старанна прыгладзіў яго, дастаў з кішэні маленькі зашмальцаваны блакноцік,—самі палічыце, у нас больш тысячы двароў, а кароў каля 600. Значыць, кожны другі двор абыходзіцца ўжо, як пішуць у паперах, без буйнай рагатай жывёлы. Прычым, ніхто не прымушаў іх гэта рабіць. Самі. Просяць старшыню: вазьміце карову ў абору. Карацей, прыватны сектар здае свае пазіцыі. Паглядзіце бюджэт любой калгаснай сям'і і вы пераканаецеся, што 80—90 працэнтаў прыбытку сям'я атрымлівае ад грамадскай гаспадаркі.

Так, сапраўды, з гэтым нельга не пагадзіцца. Праца калгаснікаў добра аплачваецца. Летась у сярэднім на адзін чалавека-дзень прыпала чатыры рублі з паловай. Мне прыводзілі такі прыклад. Сям'я механізатара Н. Саўраненкі — чатыры чалавекі. Працуюць два. Летась яны зарабілі 3776 рублёў. Прыбытак ад уласнай падсобнай гаспадаркі 220 рублёў. Лічбы гэтыя гавораць самі за сябе. Дабрабыт калгасніка зараз залежыць перш за ўсё ад узроўню эканомікі арцелі: багацее калгас—лепш жывуць і калгаснікі.

ПРАЗ ГОД-ДРУГІ ў Верцялішках вырасце гандлёвы цэнтр. У ім будзе магазін, сталовая, гасцініца, цырульня і розныя майстэрні. Яшчэ больш палепшыцца побыт жыхароў вёскі. А поўная механізацыя ўсіх работ, разумная арганізацыя побыту намнога павялічаць бюджэт вольнага часу сельскіх жыхароў. Чым яго запоўніць, дзе правесці вольны час?



Вуліца Юбілейная. Справа — Палац культуры. Фота Ул. КРУКА.

На стале кіпа анкет. Іх больш трохсот. Розныя почыркі, розныя адказы: па-тэлеграфнаму кароткія і спакойныя, грунтоўныя, не толькі аб вольным часе, а і пра сучаснае жыццё ўвогуле. Вось некалькі вытрымак з анкет, запоўненых калгаснікамі:

«Матэрыяльны дабрабыт далёка не галоўны наш клопат. У нас ёсць і хлеб і да хлеба. Хочацца прыгожа жыць, змястоўна...» — піша даярка.

Чалавек хоча жыць прыгожа... Аб гэтым гаворыць і тое, што ў многіх анкетах калгаснікі пішуць: прысядзібны ўчастак павінен быць садам і кветнікам.

«Добра, каб у клубе часцей чыталіся лекцыі аб сям'і, выхаванні дзяцей. Мы хочам, каб нашы дзеці, незалежна ад сваёй прафесіі, былі адукаванымі, здаровымі, культурнымі», — пішуць маладыя калгасніцы.

«Вёсцы патрэбна сталовая, кафэ, дзе можна было б павячэраць з сям'ёй, сустрэцца з сябрам, пагаварыць душэўна аб жыцці», — гэта прапанова механізатараў.

Як бачым, запатрабаванні шырокія. Што ёсць для таго, каб іх задаволіць?

— Наш Дом культуры ўсім падабаецца, — з трохі прыхаванай гордасцю гаворыць яго дырэктар. — Госці дужа хваляць, а яны прыязджаюць да нас нават здалёку, з-за мяжы. І ўсе дзіву даюцца, што ў вёсцы такі Палац культуры.

Сапраўды, Палац культуры ў Верцялішках цудоўны. Вялізная, вельмі добра абсталяваная сцэна. Любы тэатральны калектыў можа на ёй разгарнуцца. І глядзельная зала выдатная. Ёсць стацыянарная шырокаэкранная кінаўстаноўка, два піяніны, інструменты для духавога і эстраднага аркестраў. Карацей, база для развіцця мастацкай самадзейнасці ў «Прагрэсе» вельмі моцная. І па вечарах жыхары вёскі спяваюць у хоры. Моладзь займаецца ў танцавальным калектыве. Імклівая віхурная «Лявоніха» — лепшы нумар самадзейных танцораў. Карыстаюцца папулярнасцю выступленні жаночай вакальнай групы «Усмешка».

Зараз, у гарачыя летнія дні ў самім Доме культуры пацішэла. Затое агітбрыгада працуе з поўнай нагрузкай. Выступае і на лугах, і на палях, выязджае з канцэртамі ў суседнія калгасы.

— З восені думаем разгарнуцца па-сапраўднаму. Абавязкова трэба стварыць драматычны гурток. У нас павінен быць народны тэатр. Пры нашых магчымасцях грэх працаваць кепска, — расказвае аб сваіх планах дырэктар Палаца культуры Сяргей Шапавалаў.

— Пасля жніва правядзем свята сярпа і молата, арганізуем конкурс грыбнікоў, спаборніцтвы па стральбе. Задум шмат...

Палац яшчэ будзе расці. Запланавана яго другая чарга: спартыўная зала, басейн. За палацам раскінецца парк. Ён ужо зараз шуміць маладой лістотай.

Не забылі ў «Прагрэсе» пра дзяцей. Маладое пакаленне акружана асаблівым клопатам. Юныя жыхары вёскі, можна сказаць, з калыскі прывучаюцца да музыкі. Тут урачыста адзначаюцца радзіны. Вось як гэта праходзіць.

...Машына, убраная кветкамі, вянкамі, прывозіць нованароджанага, яго бацькоў і ганаровых бацькоў у Дом культуры. Старшыня сельсавета ўручае пасведчанне аб нараджэнні. Гучыць «Святочная уверцюра» Шастаковіча, пеняцца бакалы шампанскага.

Калі трохі падрасце, вясковы жыхар пойдзе ў дзіцячы сад, паступае ў калгасную музычную школу.

— Жанчыны, відаць, больш за ўсіх выйграюць ад перамен у вёсцы,— гаварыла парторг калгаса Раіса Аляксандраўна Сініцына. — Раней працавалі з цёмнага да цёмнага. І на поле трэба схадзіць, і хатнюю гаспадарку дагледзець. Зараз жанчыны — актывісткі. Маладзейшыя вучыцца пачалі. Хто ў тэхнікуме, а хто і ў інстытуце. Ды ў нас ёсць і свае універсітэты.

Так, ёсць, і пра іх варта сказаць больш падрабязна. У Верцялішках працуюць дзве грамадскія навучальныя ўстановы — універсітэт сельскагаспадарчых ведаў і універсітэт здароўя. Першым кіруе старшыня калгаса Фёдар Пятровіч Сянько, чалавек неспакойнага характару, глыбокіх ведаў, ён скончыў аспірантуру, рыхтуе дысертацыю. На яго лекцыях заўсёды перапоўненая зала. Цікава праходзяць заняткі і ва універсітэце здароўя. Праводзяць іх выкладчыкі Гродзенскага медыцынскага інстытута.

ТАК ЖЫВУЦЬ і працуюць жыхары Верцялішак — прыгожай, добраўпарадкаванай, сучаснай у поўным сэнсе слова вёскі. Тут не шкадуюць грошай на культуру, выдаткоўваюць намнога болей тых працэнтаў, якія абавязаны адлічваць на культурныя патрэбы згодна статута сельгасарцелі.

Тое, што ўжо зроблена, уражвае сваім размахам, навізной. У альбоме, які захоўваецца ў калгасным музеі, шмат хвалюючых запісаў. Лётчык-касманаўт СССР Я. Хруноў пакінуў такі запіс: «Проста дзіўна было бачыць ўсё гэта ў калгасе: такая культурная, утульная, цудоўная гэтая эксперыментальная будоўля».

Ёсць у музеі вялікі макет. На ім Верцялішкі будучага. Шырокія светлыя вуліцы, прыгожыя дамы. Пасёлак добра ўпісваецца ў навакольны пейзаж...

Вярнуўшыся ў Мінск, мне захацелася сустрэцца з аўтарамі плана сацыяльнага развіцця калгаса «Прагрэс». Кандыдат эканамічных навук Уладзімір Фёдаравіч Тарасевіч, загадчык аддзела Навукова-даследчага інстытута эканомікі і арганізацыі сельскагаспадарчай вытворчасці сказаў:

— Такі план давялося нам складаць упершыню. Працавала над ім вялікая група работнікаў інстытута. Хацелася ўявіць сабе будучае вёскі, паглядзець на яе з усіх бакоў... Верцялішкі — будоўля эксперыментальная, ці як яшчэ яе называюць, узорна-паказальная. Хай вучацца на гэтым прыкладзе кіраўнікі іншых гаспадарак, хай смялей марыць аб будучым. Ну, а час пакажа, ці ўсё добра выверылі, прадумалі архітэктары, праекціроўшчыкі.

Упарта і настойліва цягнецца вёска да горада. Знікаюць спрадвечныя яе атрыбуты: драўляныя хаты, крывыя вузкія вуліцы з рамонкамі і невысыхаючымі лужынамі, пыл, што ўздымае вечарам статак кароў, такое звыклае і мілае рыпенне калодзежнага жураўля ў вячэрняй цішы...

Ці варта сумаваць аб гэтым? Вяскоўцы не сумуюць. Яны рады пераменам. Яны хочуць жыць у прыгожых, цёплых, утульных кватэрах, хадзіць па тратуарах, хутчэй усвайваць даброты. Вёска цягнецца да цывілізацыі, культуры, мастацтва.

Хочацца спадзявацца, што новыя нашы вёскі не будуць падобнымі адна на адну, як некаторыя нашы новыя гарады. Бо тое, што да твару Верцялішкам, не падыдзе якому-небудзь Залессю або Зарэччу. Здаецца, ужо аціхлі спрэчкі наконт аграгарадкоў са шматпавярховымі гмахамі. Баіцца вёска шматпавярховых каменіц. Не хочуць яе жыхары паднімацца ў кватэру па незлічоных прыступках.

...Коціцца па асфальце дзіцячая каляска. Бесклапотна спіць маленькі чалавек. Кім ён будзе, калі вырасце? Ці спадабаецца яму тое, што будуюць зараз бацькі?

Л. ЛЯВОНАЎ,
спец. кар. «Літаратуры і мастацтва».

# Паэтычная паверка

## Эдзі АГНЯЦВЕТ



### І ДРЭВЫ, ЯК ЛЮДЗІ...

У дрэва—свая таямнічая мова,
Зялёная,
дзіўная музыка слова.
Ты прыпыніўся ля ціхіх дрэў.
Што ты пачуў
і што зразумеў?

Бяроза смуткуе па розных
прычынах,
Хаця і здаецца вясёлай
дзяўчынай:
Не хоча глядзець на
дарогі-шляхі,
Дзе клёны гамоняць —
яе жанiхі.
Ей толькі і мроіцца ясень
адзіны —
Прыхільнік зусім непрыкметнай
асіны.
— Эх, ты ясю-ясень...
Асінніцы—дзеўкі старой не бяры:
Ні звонкага лісця,
ні белай кары!

Што скажа яліна?
Што блізка ёй, люба?
Была яна вернай сяброўкаю дуба.
Ён тут, на чмялінай паляне, шумеў,
Баладу лясную складаў, як умеў.

Калі ж цішыню разарвалі
гарматы, —
Стаяў ён у форме зялёнай
салдата,
Паклікаў яліну,
паклікаў сасну,
І дрэвы, як людзі,
сустрэлі вайну.

Ад нелюдзяў
дрэвы людзей засланялі,
І самі гарэлі,
і паміралі...

Яліна, яліна,
шумі, не маўчы!
Я чую, ты стогнеш паціху ўначы.

Калі ў цемнаце прамільгне
бліскавіца, —
Табе навальніца ваенная сніцца
І дуб...
Ён загінуў у пушчы сваёй,
Як быццам на лініі перадавой.

• • •

З каменя анямелага
Можна высечы іскры —
Камень становіцца дзівам,
Ён пачынае жыць.
Таму я ў век кібернетыкі
Кланяюся нізка
Розуму чалавека,
Які адкрыў агонь.

Кажуць,
сэрца не камень...
Калі ж скамянела сэрца
Ад смутку,
ад страты цяжкай, —
Хутчэй адагрэйце яго!
Можна высечы іскры:
Толькі яму не шкадуйце
Шчодрасці
і спагады,
І дабраты сваёй!

### МЕЛОДЫІ ШАПЭНА

Я іду за музыкай Шапэна,
Адкрываю радасці сама:
Скачуць іскры Віслы белапеннай,
І мазурку скача ўся карчма.

Пэўна, у простых клавішах раяля
Ёсць валынкі,
скрыпкі,
кантрабас.
Эх, абэрак пары заскакалі,
Хто ж уседзець можа ў гэты час?

Раптам чую рэха барабана —
І няма канцэртных, мірных сцен!
З рытмаў нечаканых, палымяных
Гнеўны вырастае сам Шапэн.

Гэта ўжо не музыка, а цуда.
Болей струнам болю не
стрываць —
Рытмы Гераічнага эцюда
Над Варшаўскай восенню
грымяць.

Ён каноны разрываў упэўнена
Вастрыём тугі,
надзей,
трывог.
Там гучала музыка Шапэна,
Дзе Міцкевіч гаварыць не мог.

А галовы царскія не чулі,
Што ў мазурках тоіцца удар,
Што ў накцюрнах тонкіх спелі
кулі,
Ў паланезах — грозны марш
фанфар!

У Парыжы і ў чужым Нагане
Сніў ён Польшчу,
звон яе лугоў,
Ён дайшоў бы ўласнымі нагамі
Да крутых, зялёных берагоў!

Толькі б зноў пачуць,
як на радзіме
Журацца сялянкі і пяюць!
Толькі б зноў сустрэцца
з дарагімі,
Мову незабыўную пачуць!

І таму
тужлівымі вачамі
Углядаўся ён, трывожны, у даль.
І таму
бяссоннымі начамі
Морам бушаваў яго раяль.

## Святлана ЛОБАЧ



### СУСТРЭЧА

«Добры дзень, ці здарова?»
— Ой, маўчы, што й казаці...
Праганяе карову
Кожнай раніцай маці.
То ісці за вадою,
То скаціну дагледзець...
У кубак мне сырадою
З пышнай пенай нацэдзіць.
— Пі, яшчэ не астыла...
Бач, якая худая...
На руках яе жылы,
Як дарога лясная.
— Паляжы шчэ, дачушка
Што рабіць табе зранку?
Жар у печы загушкаў
На патэльні мачанку.
І бліны ляжаць горкай
На бялюткай сурвэце.
Мне зрабілася горка,
Што адна ты на свеце,
Што ў вайну пахавала
Майго бацьку і брата...
Я так рэдка пісала...
Ты даруй, вінавата.

• • •

Па вёсцы плётка
Распусніцаю гуляе:
Удавец Хвядотка
Веселле хутка згуляе.
Сам барадаты.
Нібыта вяроўкі, жылы.
Бярэ ў хату
Дзеўку пасля дажынак.
Ідуць размовы,
Вёдры ў чарзе застылі...
Уздыхаюць удовы:
Пра іх мужыкі забылі.
Увесь дзень у полі:
Заплесці некалі косы.
Растуць таполі,
Растуць маладыя бярозы.
Для іх абновы—
Няхай пакрасуюцца ў свята...
Уздыхаюць удовы:
Адцвіла ты, рута-мята...

# «ЛЯВОНІХА» СВЯТКУЕ ДВАЦЦАЦІГОДДЗЕ

Кожны раз, як на сцэну выходзяць танцоры народнага ансамбля трактаразаводцаў «Лявоніха», у зале гучаць гарачыя воплескі. Палюбіліся гледачам вясёлыя, тэмпераментныя, поўныя іскрыстай маладосці жамчужыны народнай харэаграфіі «Лявоніха», «Юрачка», «Бульба». Народны ансамбль выконвае іх з сапраўдным бляскам, вялікай любоўю, чуйна захоўваючы ў іх душу народнага танца.

У рэпертуары народнага ансамбля — звыш 30 розных танцаў і кампазіцый.

Зараз «Лявоніха» рыхтуе новую сюіту «Мы — беларусы», у якую ўвойдуць кампазіцыі «Песня аб Буравесніку», «Зварот» і «Азёрная легенда». Фрагменты з гэтых кампазіцый былі паказаны на юбілейным канцэрце, які адбыўся 26 чэрвеня.

Ансамбль з поспехам выступаў у Маскве, Волгаградзе і іншых гарадах Расійскай Федэрацыі. Ён часта выязджае з канцэртамі ў беларускія гарады, выступае перад працаўнікамі сельскай гаспадаркі. Цікавымі і незабыўнымі былі сустрэчы з польскімі гледачамі ў Варшаве, Плоцку і іншых гарадах ПНР.

Юбіляраў шчыра і цёпла віталі на вечары шматлікія прадстаўнікі грамадскасці.



Вось яны, юбіляры...

Іван МІХАЛЮТА,

заслужаны дзеяч культуры БССР, дырэктар Акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы.

# РАЗМОВА ПА ШЧЫРАСЦІ

**ПРАВІЛЬНА: ЁСЦЬ ТАКАЯ ПРАФЕСІЯ ● ВЯЗЬМО НЯПРОСТЫХ ПРАБЛЕМ ● І ТЭАТР — ПРАДПРЫЕМСТВА ● АПЯКУНСТВА! А НАВОШТА?..**



працу не абараняе, і ніякіх даплат за «звышурочныя» ён не атрымлівае. Дырэктар «служыць» справе па закліку сэрца і па грамадзянскім абавязку. Калі хочаш, каб добра працаваў тэатр, аддай сябе ўсяго яму!

Галоўная складанасць тэатральнай справы ў тым, што тут амаль усё залежыць ад індывідуальнасцей — рэжысёрскіх, артыстычных, мастацкіх. Трэба мець падыход да кожнага, быць уважлівым, падтрымліваць нешта ў чалавеку, а нешта адразу ж адвяргаць. Адным словам, памагаць кожнаму дзеячу і ўсяму ансамблю заўсёды быць у форме.

Калі па якой прычыне на завод не выйдзе рабочы, завод працуе; захварэў паштальён, вам усё роўна прынясуць газеты і пісьмы... А захварэў артыст? Перайшоў ён у новы калектыў? І тэатр вымушаны мяняць рэпертуар, графік рэпетыцый, тэрмін выпуску прэм'еры і г. д. Прыклады зусім нядаўнія — купалаўцы перасталі іграць цікавы спектакль «На дне», бо з тэатра звольніўся выканаўца ролі Саціна, не ставіць «У мяцеліцу», бо няма цяпер у трупе артыста на адну з галоўных роляў. Мы адкладалі прэм'еру «Праўду! Нічога, акрамя праўды!!!» — быў хворы артыст. Тое ж было ў Рускім тэатры БССР са спектаклем «Марыя Сцюарт». Відаць, у мастацтве тэатра не дзейнічае прынцып — няма, маўляў, людзей, якіх нельга замяніць. І ўся адказнасць зноў жа кладзецца на дырэкцыю тэатра. Спектакль на сцэне — не кінастужка. У кінастудыі акцёры не хварэюць.

І ніхто нават не падазрае, якія даводзіцца пераадольваць цяжкасці нам, у тэатры, калі адначасова здымаецца ў кіно некалькі нашых артыстаў. Глядач і не ведае і ведаць яму няма чаго, які націск вытрымлівае дырэктар, калі ён па вытворчых абставінах не можа адразу і лёгка задаволіць творчае патрабаванне акцёра. На яго націскае акцёр, які згадзіўся здымацца, націскае адміністрацыя кіно або тэлестудыі, а часам і Упраўленне па справах мастацтва Міністэрства культуры БССР. Усе «растлумачваюць» важнасць такой і такой падзеі для савецкага мастацтва...

Выкарыстанне акцёраў тэатра ў кіно, на тэлебачанні сёння ўскладняе і без таго складаную работу ў тэатры. Асабліва ў нашым купалаўскім тэатры, які мае таленавітых артыстаў.

У артыста «шматстаночніка», які сумяшчае работу ў тэатры з выступленнямі па радыё, на тэлебачанні і ў кіно, няма часу для паглыбленай самастойнай работы над роляй у тэатры. А вынікі сумнаватыя для сцэнічнага мастацтва. У той жа час, калі ты адмовіш акцёру права на кіназдымкі, ты не пашырыш яго папулярнасці, якую ён мае ў рэспубліцы, праз кіно і радыё (і скароціш дадатковы заробак!). Адсюль, добраму, дысцыплінаванаму артысту проста немагчыма адмовіць. Трэба разумець і яго: у тэатры, на жаль, заробак невялікі.

Дырэктар павінен і гэта ведаць. А тут не толькі арганізацыйныя справы, а і эмоцыі, творчае самаадчуванне, кантакт паміж кіраўніцтвам тэатра і трупай.

ТЭАТР сёння — гэта сацыялістычнае дзяржаўнае прадпрыемства, якое дзейнічае па законах блізкіх прамысловым прадпрыемствам, што маюць статут і пашыраныя правы кіравання.

На чале тэатра стаіць дырэктар, які нясе адказнасць за ўсю мастацкую, выхаваўчую, вытворчую дзейнасць. Па творчай частцы дырэктар падзяляе адказнасць з галоўным рэжысёрам, за ўсё астатняе — са сваімі намеснікамі. Кіраўніцтва тэатра абапіраецца на партыйную і прафсаюзную арганізацыі, па мастацкіх пытаннях раіцца з мастацкім саветам, які працуе пры дырэкцыі на правах дарадчыка. Разумець асаблівасць кіравання тэатрам неабходна савецкім і партыйным арганізацыям, якія ўплываюць на нашу работу. Падкрэсліваю гэта невыпадкова.

Каля дзесяці гадоў мне давялося быць дырэктарам Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра. І цяпер з вялікай прыемнасцю ўспамінаю, як любоўна, з вялікай пашанай там ставяцца да свайго тэатра, да яго артыстаў і кіраўнікоў абласныя арганізацыі.

Па найбольш важных пытаннях жыцця тэатра мы раіліся з кіруючымі работнікамі абкома КПБ і аблвыканкома. Тут, у тэатры. Проста. Без афіцыйных запрашэнняў. Скажам, сакратар абкома партыі А. Ульяновіч — як кажуць, свой чалавек у тэатры. Яго можна сустрэць на партыйным сходзе, пасяджэнні мастацкага савета, за кулісамі ў час прэм'еры. І ён ніколі не навязвае свайго погляду, а выказвае па-таварыску асабістую думку. Дырэкцыі прадастаўлена поўная самастойнасць у кіраванні тэатрам і адказнасці за яго дзейнасць. Ёй вераць, яе падтрымліваюць....

Узаемаадносіны паміж грамадскімі арганізацыямі, органамі кіравання культурай і тэатрам лепш за ўсё будаваць на даверы. Тады дырэкцыя і мастацкае кіраўніцтва тэатра адчуваюць большую адказнасць за справу — ніхто іх разумных рашэнняў не адменіць, не будзе дыктаваць рэпертуар або размеркаванне роляў, падказваць, каго з артыстаў запрашаць і ад каго адмаўляцца і г. д. Цяпер, працуючы ў Акадэмічным тэатры імя Я. Купалы, я часам сутыкаюся з такімі адносінамі з боку Упраўлення па справах мастацтваў Міністэрства культуры БССР. Супрацоўнікі яго, бывае, бяруцца вырашаць тыя пытанні, якія цалкам «падлягаюць» прэрагатывам дырэкцыі і мастацкага савета тэатра. Нават перакладчыка п'ес нам падказваюць, а часам і «размяркоўваюць» ролі ў чарговай пастаноўцы. Ці патрэбна такая апека тэатру, ці не скоўвае яна ініцыятыву творчых работнікаў? Мне здаецца, што не, не патрэбна! І штучна абмяжоўвае поле дзейнасці таго ж мастацкага савета тэатра.

ЧАСЦЕЙ за ўсё мы спрачаемся адносна рэпертуару. У тэатры чытаюцца амаль усе навінкі драматургіі. Сочым мы за прозай, лепшыя творы якой вартыя таго, каб іх інсцэніравалі. І права і абавязак тэатра выбіраць, што яму цяпер, пры гэтым складзе трупы і яе творчых імкненнях, больш падыходзіць, што ставіць і іграць. І далёка не заўсёды парады «з боку» бываюць самымі правільнымі і зыходзяць з натуральных патрабаванняў калектыву артыстаў і рэжысуры.

Пры падборы рэпертуару тэатр улічвае ўсё — што скажа і чаго патрабуе глядач, ці хопіць у нас творчых магчымасцей для ўвасаблення п'есы на сцэне, як яна стасуецца з вытворчымі планамі, хто будзе заняты ў рабоце і як будзе наведвацца спектакль. Я называю самае галоўнае. Бывае, што п'еса бярэцца з разлікам на пэўную акцёрскую індывідуальнасць, для яе выяўлення. Ці можа хто лепш за тэатр ўсё гэта ўлічыць? Ці можа ахапіць адразу такой увагай некалькі тэатраў Упраўленне? З якімі б добрымі намерамі ні былі яго работнікі, і яны могуць памыліцца. Мастацкі савет Акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы, дзе сабраліся майстры сцэны і ўсё партыйнае бюро, можа разбірацца ў надзённых праблемах творчага жыцця калектыву і, у прыватнасці, выпрацаваць патрэбную рэпертуарную лінію.

Мне здаецца, што агульны кантроль за рэпертуарам тэатраў не павінен зніжаць ролю мастацкіх саветаў, бо гэта не спрыяе творчай ініцыятыве тэатральных калектываў.

Два гады таму назад тэатр імя Я. Купалы не выпускаў планавую колькасць спектакляў і не запаўняў глядзельную залу. І на гастролях, здаралася, тэатр «гарэў». Мне давялося прыйсці ў яго дырэктарам у той час, калі ён вяртаўся з гастроляў пасля страшэннага кішынёўскага «пажару». Трэба было знайсці прычыны няўдач тэатра. Справа ў тым, што рэпертуар падбіраўся па густах то запрошанага гастралёра-рэжысёра, то аднаго толькі галоўнага рэжысёра. Менш за ўсё клапаціліся пра тое, каб задаволіць патрабаванні гледача. Няўдалыя спектаклі «Сэрца на далоні», «Мешчанін у дваранстве», «Блакада» і некаторыя іншыя знізілі цікавасць гледача — ён перастаў наведваць тэатр. Пры такім стане нават добры спектакль «На дне» М. Горкага не выклікаў таго рэзанансу, на які меў права.

Калі зацвярджаецца рэпертуар, трэба разглядаць яго не з аднаго якога-небудзь пункту гледжання, бо гэта будзе «аднабока», трэба ўлічваць усе «за» і «супраць». І няма карысці, калі і тут падмяняюць мастацкі савет тэатра. Трупа і сама адчувае перспектыву свайго творчага жыцця, і мы спыняем сваю ўвагу на той або іншай п'есе, зыходзячы з планаў на будучыню — і ў рэпертуарнай палітыцы, і ў шляху развіцця майстроў сцэны і моладзі. Роля даручаецца артысту не толькі таму, што ён можа яе сыграць ярка ў гэтым спектаклі, а яшчэ і будзе пэўным этапам у яго развіцці і станаўленні, нешта замацуе ці адкрые новыя грані таленту, а часам будзе садзейнічаць пераходу на новае «амплуа». Пры ўсім гэтым і тэатр не застрахаваны ад памылак: здараецца, што ў нас хтосьці іграе «не тое». А тут яшчэ настойлівыя падказы! Як у футболе часам трэнеру дыктуюць, каго паставіць у абарону, каго ў нападзенне. Навошта?..

Пры фарміраванні трупы мы чакаем ад кіруючых устаноў і грамадскіх арганізацый дапамогі, якая б дала магчымасць тэатру запрашаць патрэбных артыстаў. Бо нармальна працаваць у калектыве можна тады, калі яго супрацоўнікі забяспечаны ў бытавых адносінах (пажадана, каб на 100 працэнтаў!) Абнаўленне ж акцёрскай трупы заўсёды нясе добрае ажыўленне ў творчае жыццё. Тады і размеркаванне роляў бывае куды цікавейшым!

Цяпер нам раяць, каб мы прызначалі на ўсе ролі дублёраў. Безумоўна, гэта гарантуе паказ спектакляў, нават калі захварэе той ці іншы акцёр. Але ці заўсёды гэта можа зрабіць тэатр? За двайным складам трэба бачыць і падвоеныя тэрміны падрыхтоўкі прэм'ер, дадатковыя выдаткі. А часам яшчэ і зніжэнне мастацкага ўзроўню з-за кампрамісаў пры выбары выканаўцаў цэнтральных роляў. Трэба разумець, што тады пры плане 5 спектакляў, напрыклад, Акадэмічнаму тэатру імя Я. Купалы трэба лічыць іх за дзесяць. І такое пытанне павінен вырашаць сам тэатр, кіруючыся патрабаваннямі жыцця і тымі правамі, якія запісаны ў «Палажэнні аб тэатры і яго кіраўніках».

І ЯШЧЭ некалькі слоў аб парадах. Мы, бывае, чуем падказы нават, як нам праводзіць гастролі. Летась напярэдадні летніх гастроляў газета «Літаратура і мастацтва» ў артыкуле «На маршрутах гастрольнага лета» вучыла:

«Відаць, не варта ганяцца за тым, каб кожны акцёр кожны вечар дзе-небудзь абавязкова выступаў, не маючы часу на адпачынак... Між тым, скажам, дырэкцыя Акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы збіраецца наладзіць за месяц амаль трыццаць выязных спектакляў. Ці разумна прымушаць ветэранаў-купалаўцаў і моладзь трупы іграць з такім празмерным напружаннем?» І далей ідзе парада, якія спектаклі везці, а якія не трэба. Скажу шчыра, што нават самы вопытны дырэктар вывучае магчымасці правядзення гастроляў у кожным горадзе паасобку. У адным горадзе поспехам могуць карыстацца адны спектаклі, у другім — іншыя. І колькі прыкладаецца намаганняў і вынаходніцтва, каб быў поспех! А тут проста — узяў і параіў...

Гэтымі нататкамі я не збіраюся абвяргаць любыя заўвагі і ўсю крытыку ў адрас тэатра. Хацелася б толькі заклікаць да даверу да дзейнасці калектыву з боку аўтараў артыкулаў і супрацоўнікаў Упраўлення па справах мастацтваў Міністэрства культуры БССР. Ацэньвайце нашу работу па выніках, па спектаклях, па выкананні вытворчых планаў. І мы будзем вывучаць усе парады і любую крытыку.

Прашу прабачэння ў тых, хто прыме папрокам у свой адрас мае выказванні. Іншай мэты, як паляпшэнне кіравання тэатральнай справай, у мяне не было.

## З ПОШТЫ «ЛіМа»

драматычнага тэатра. Чаму? Няўжо гэта ідзе ад абыякавасці да папулярызацыі тэатральнага мастацтва!..

У Гомелі амаль не бывае і афіш народных тэатраў. Аб тым, што народныя тэатры ў горадзе дзейнічаюць, мы даведваемся зрэдку з кароценькіх рэцэнзій у газеце (рэцэнзіі часцей за ўсё цалкам дадатныя). Чаму б не пашырыць рэкламу народных тэатраў у такім буйным горадзе? Адпаведна павялічыліся б колькасць гледачоў і інтарэс грамадскасці да спектакляў.

Нічога дрэннага не бачу ў тым, калі на прадпрыемствах з'яўляюцца «зазывалы» для распаўсюджвання білетаў у тэатр. Я асабіста за прапаганду тэатра ва ўсіх магчымых варыянтах. Карысць прыносіць і добрае слова, і магчымасць набыць білет у цэху.

Што датычыць катэгорый гледачоў, то ў іх ліку сапраўды часам трапляюць у тэатральную залу і чужыя цудоўнаму мастацтву людзі. Чалавек «пад чаркай» у тэатры, куды ён трапіў выпадкова, не разумее, дзе знаходзіцца і як трэба паводзіць сябе. Горш за ўсё, што ён перашкаджае суседзям па зале. Такога, відаць, і перавыхоўваць не трэба, а проста нельга пускаць у тэатр. Хто яму забароніць туды ўвайсці? Ну, хоць бы і адміністратар разам з актывістамі-гледачамі, якія з'яўляюцца сталымі наведвальнікамі тэатра і складаюць нешта накшталт «клуба прыхільнікаў».

Глядач павінен ведаць, што яму пакажуць на сцэне. І тады ён будзе адпаведна рыхтавацца. Скажам, калі яго запрашаюць на камедыю К. Крапівы ён, можа, перачытае любімыя байкі або зазірне ў энцыклапедыю. Калі ж гэта невядомае імя, зацікавіцца тэмай твора і пагартае адпаведную літаратуру. Не кожны так зробіць, але ж дайце нам добрую афішу-рэкламу, і мы будзем больш «актыўна» рыхтавацца да сустрэчы з мастацтвам.

«Мы» — гэта дарослыя людзі. А юнакі? Ці ўмее тэатр зацікавіць іх без удзелу «распаўсюджвальнікаў» білетаў — назвай, імем драматурга, выканаўцы галоўнай ролі? Не. Хлопец або дзяўчына часцей за ўсё купляюць білет «на назву», а што за ёй, — ні ён, ні яна не ведаюць. «Кажуць, пра вайну і пра любоў...» — вось прыклад меркаванняў, якімі кіруецца масавы глядач. Таму і юныя не заўсёды ўмеюць правільна «настройвацца» на хвалю спектакля, пераключацца з будняў на свята. Вядома, будзе свята ці не, — першынаперш залежыць ад тэатра. Але і ад маладой часткі залы, якая рэагуе на ўсё больш адкрыта, таксама многае залежыць. А школьнікаў не вучаць правілам «прыстойных паводзін», без якіх наведанне тэатра часта робіцца дарэмнай справай. Атмасфера, у якой адбываецца непасрэдны кантакт паміж аўдыторыяй і сцэнай, складаецца з няўлоўных флюідаў, і нездарма часам чуеш ад знаёмых: «Трапілі на вельмі няўдалую публіку...» Значыцца, быў рогат або абыякавасць, што ідзе ад недастатковай культуры.

Нельга не адзначыць інертнасць некаторых гледачоў, бо ў наш час стала модным атрымліваць праз тэхнічныя сродкі незлічоны паток інфармацыі без усялякіх намаганняў. З-за гэтай інертнасці развіваецца душэўная лянота, і ў сутыкненні з мастацтвам некаторыя людзі бачаць толькі пустую трату часу.

Цяжка ўявіць чалавека, які жыве ў горадзе і ніколі не бывае ў тэатры, не ведае імёнаў лепшых акцёраў тэатра. Ну як можна жыць у Мінску і не ведаць С. Станюты, Л. Рахленкі, В. Тарасава, А. Клімавай!..

Мне ўспамінаецца герой апавядання Міхася Стральцова, які чытаў кнігі і часопісы толькі для таго, каб мець мінімум духоўнага здабытку і не быць смешным у вачах людзей. Самі кнігі яго не цікавілі. А жыў гэты чалавек у Мінску, насіў маску культурнага чалавека і нялёгка было распазнаць у ім сённяшняга мешчаніна. І ў тэатр такія ходзяць, не разумеючы глыбіні мастацтва. Выхоўваць любоў да тэатра трэба з малых гадоў, каб кожны ведаў, што тэатр — гэта вышэйшы ўзлёт пачуццяў, незвычайная творчая праца акцёраў, што прыносіць людзям радасць. Смялей і часцей трэба перадаваць спектаклі па тэлебачанні, абавязкова падкрэсліваючы, што блакітны экран усё ж ніколі не заменіць асабістай сустрэчы чалавека з жывым акцёрам, як пласцінка не заменіць гучання аркестра ў філарманічнай зале. Часцей трэба напамінаць пра гэта...

Заўвага і адносна прапаганды мастацтва тэатра ў друку. Мне было крыўдна, калі я на старонках «Літаратуры і мастацтва» ў нарысе-партрэце «Тры размовы са Стэфаніяй Станютай» (24 красавіка г.г.) М. Дзяшкевіча сустрэла фактычныя памылкі і блытаніну ў імёнах. Бо С. Станюта іграла ў спектаклі «Патрабуецца ілгун» не Піцы Кіцу (у гэтай ролі выступала Г. Арлова), а Піпіцы, машыністкі дэпутата. Аўтар нарыса паведамляе чытачам пра мару актрысы сыграць ролю фру Альвінг у «Прывідах» Г. Ібсена, а піша «фру Альвіна». Ці ж гэта даравальна, калі ты праз друк хочаш зацікавіць чытача тэатрам?..

Раіса КАЗЛОВА.

Буда-Кашалеўскі раён.

# І МЕТАЛ ЗАГАВАРЫЎ



С. Салахаў. Дэкаратыўнае пано «Рамонак». Чаканка.



Ю. Калістратаў, В. Палюлін. Ювелірны гарнітур «Легенда». Філігрань.

**ФІЛІГРАННАЯ РАБОТА! — так мы гаворым пра надзвычай тонкае майстэрства. І не задумваемся, што азначэнне «філігранны» пайшло ў свет ад на дзіва складанай тэхнікі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва — філіграні (або скані). Стварыць філігрань — не проста. Спачатку спецыяльнымі абцужкамі майстар падбірае на металічнай пласцінцы малюнак узору з адрэзкаў тонкага, часцей за ўсё кручанага, дроту. Затым пасыпае ўсё парашком лёгкаплаўкага сплаву — «прыпою» і награе да пэўнай тэмпературы — усе часткі будучага вырабу змацоўваюцца.**

**Атрыманыя металічныя карункі задуманага твору вельмі прыгожыя на прасвет — своеасаблівы скразны, ажурны арнамент. Гэтыя карункі могуць таксама накладацца на металічную падкладку.**

**Не менш складаная і тэхніка такога віду мастацкай апрацоўкі металу, як чаканка, узоры якой мы ў апошні час сустракаем у побыце ўсё часцей.**

**Паглядзіце на нашых здымках гатовыя работы: ювелірныя вырабы, створаныя з прымяненнем філіграні, дэкаратыўнае пано для ўпрыгожання інтэр'ера, створанае з прымяненнем чаканкі. Ну хіба ж не прыгожыя яны? Колькі ў іх фантазіі мастакоў!..**

**Менавіта пра фантазію мастакоў, пра іх умельства праз свае вырабы перадаць прыгажосць, адкрытасць металу думаеш, знаёмячыся з работамі маладых майстроў цэха металу, нядаўна створанага пры мастацка-вытворчым камбінаце Мастацкага фонду БССР.**

**Так, Юрый Калістратаў і Віктар Палюлін — выхаванцы Краснасельскага вучылішча мастацкай апрацоўкі металу, распрацоўваюць новыя разнастайныя і арыгінальныя творы. Работы гэтых мастакоў — выразныя па пластыцы, прафесіянальныя па выкананні, сугучныя нашаму часу па сваіх пластычных вартасцях.**

**А Сяргей Салахаў распрацоўвае новыя ўзоры чаканкі. Калі глядзіш на яго работы, міжволі прыгадваеш выслоўе: рытм чакана — гэта сэрца чаканшчыка.**

**І. СЯРГЕЕЎ.**

## НА ТЭМЫ МАРАЛІ




М. ЗАМСКІ

АХ, ПАЧУЦЦІ, чалавечыя пачуцці... Я ўжо чую пярэчанне: «Э-э, якія цяпер пачуцці, вось некалі... Рамео і Джульета. Атэла, Сірано дэ Бержарак... Якая глыбіня, якая сіла характараў. Ледзь што — к бар'еру, або на шпагах. Трах-тарарах — і нехта ляжыць ужо на зямлі. Гонар чароўнай дамы ў даміно выратаваны, і рыцар-пераможца цалуе ёй белую ручку.

А цяпер? Ну хто, скажыце, цяпер цалуе белыя ручкі? І якое там каханне, калі, як кажуць, азірнуцца няма часу»...

А я не згодзен. Ёсць, таварышы, у нас свае савецкія Рамео і Джульеты. І Атэлы, думаю, таксама ёсць. І нават (гэта я ўжо шэптам) Яга можна сустрэць калі-нікалі...

А бывае побач кіпяць пачуцці мала не такія, што вялі дачок караля Ліра...

Я хачу расказаць дзве жыццёвыя гісторыі. Яны ўзрушылі мяне да глыбіні душы і прымусілі задумацца пра многія рэчы.

Прынамсі, пра тое, як не можам мы часам ацаніць высокае пачуццё і раўнадушна праходзім, калі ад нас чакаюць спачування і дапамогі.

Прынамсі, пра тое, што часам мяркуем аб людзях толькі па іх знешняй прыстойнасці. Вось так, бывае, падыдзеш да возера і не налюбуешся — цішыня і спакой. А ўскочыш у ваду і хутчэй назад, пакуль ногі не зламаў: усё дно — корч на карчы...

### ГІСТОРЫЯ ПЕРШАЯ.

«Паважаныя таварышы! Кожнаму чалавеку выпадае раз у жыцці перажыць вялікае пачуццё, і таму няхай вам не здасца гэтае пісьмо дзіўным. Ёсць на белым свеце жанчына, думкамі аб якой жыў я ў гады свайго суровага юнацтва. З усяго, пра што захаваў самыя хвалюючыя ўспаміны, не паддаючыся іх уладзе (з гэтым і зараз, праз столькі гадоў, вельмі цяжка саўладаць), раскажу пра нямногае.

1940 год. У той перадваенны час мы былі ў розных кутках Саюза: яна — студэнтка Ленінградскага інстытута інжынераў чыгуначнага транспарту, я — курсант Краснадарскага ваеннага авіявучылішча.

Жылі думкай хутчэй сустрэцца і застацца разам назаўсёды. Увосень саракавога я скончыў вучылішча і быў накіраваны на службу ў Кіраваград. 26 чэрвеня 1941 года нявеста мая павінна была прыехаць да мяне. Але... Вечарам 22 чэрвеня я ўжо быў у паветраным баі. А праз некалькі месяцаў мяне напаткала няшчасце — самалёт мой быў збіты, а я — цяжка паранены. Больш года праляжаў у шпіталях, потым зусім быў звалены з арміі.

Нарачоная мая засталася ў блакіраваным Ленінградзе. Яна шукала мяне і на адзін з запытаў атрымала адказ, што я загінуў.

Ну, а праз чатыры гады пасля вайны я даведаўся, што яна замужам, жыве ў Мінску.

У пакуначку, які дасылаю разам з гэтым пісьмом, ляжаць яе фотакарткі. 22 чэрвеня 41-га перад самым боем я ўзяў іх з альбома і паклаў у кішэню гімнасцёркі ля сэрца, побач з камсамольскім білетам. Гэтыя фотакарткі я пранёс праз ваеннае ліхалецце і, як бачыце, захаваў.

Ну, а цяпер пра самае горкае для мяне. Я не магу больш трымаць у сябе гэтыя фотакарткі. Яны раняць сэрца маё. Так здарылася, што з самага пачатку я не паказаў іх сваёй жонцы (я таксама даўно жанаты, у мяне дзеці), трымаў гэтыя дарагія рэліквіі маладосці на рабоце. Больш не магу... Звяртаюся да вас з вялікай просьбай — адшукайце маю каханую — яна жыве ў Мінску, імя, імя па-бацьку і прозвішча яе... (чытачу зразумела, чаму мы зрабілі тут пропуск) — і перадайце гэтыя фотакарткі. Дайце ёй прачытаць і маё пісьмо.

Вы можаце спытаць, чаму я сам не зрабіў гэтага? Цяжка адразу растлумачыць... У яе ж сям'я, дарослыя дзеці. Пісьмо можа трапіць не па адрасе. А раптам пачнуць смяяцца з яе? Не, вы гэта зробіце асцярожней. Перадайце, і няхай яна абыдзецца з гэтымі фотакарткамі, як хоча... Загадзя ўдзячны, з павагай...»

А цяпер пра самае няёмкае. Гэтае пісьмо праляжала ў рэдакцыі даволі доўгі час. Як такое магло стацца? Вы ж ведаеце, як шмат пісьмаў атрымлівае кожная газета. Большасць з іх заслугоўвае самай пільнай увагі. Прыходзяць і пустыя пісьмы. І пісьмы-жарты. Захацелася некаму пажартаваць, вось і напісаў у газету. Маўляў, які я дасціпны, усю рэдакцыю «разыграў». Вось за такі «розыгрыш» палічыў гэтае пісьмо і адзін з рэдакцыйных работнікаў. І ён накідаў рэзалюцыю: «У архіў». Не ўразіў яго, разумееце, гэты боль сэрца, боль, які чуваць у кожным радку пісьма.

Нядаўна, калі давялося разбіраць архіў, у рукі трапіла пісьмо з фотакарткамі.

За некалькі гадзін мы адшукалі і жанчыну, і аўтара пісьма, які па-ранейшаму жыве ў Віцебску. Размаўлялі з ім па тэлефоне. Дзякуй богу, ён не раззлаваўся. Ён быў толькі вельмі ўсхваляваны...

А праз два дні ў рэдакцыю прыйшла пажылая мілая жанчына, твар якой захаваў, як кажуць у раманах, сляды былой прыгажосці.

Стрымліваючы хваляванне, яна прачытала пісьмо, потым доўга моўчкі перабірала фотакарткі. Пасля гэтак жа моўчкі схавала іх, і паглядзеўшы вакол невідушчымі вільготнымі вачыма, ціха выйшла.

Падумалася тады — якія няшчасныя гэтыя двое. А зараз думаю — мо наадварот: шчаслівыя? Хіба кожнаму яно даецца, такое каханне — адно на ўсё жыццё?..

### ГІСТОРЫЯ ДРУГАЯ.

Гэта драма ў трох актах.

Дзеючыя асобы першага акта: муж Барыс Міхайлавіч, жонка Лідзія Аляксееўна, цешча Раіса Рыгораўна і яе ўнук Ігар. Усе імёны, адразу папярэджваем, змененыя.

Дзеючыя асобы другога акта: Барыс Міхайлавіч, Раіса Рыгораўна, Ігар і прэтэндэнткі на руку Барыса Міхайлавіча.

Помніце фразу з «Анны Карэнінай» — «Усе шчаслівыя сем'і падобныя адна на адну, кожная нешчаслівая сям'я, нешчаслівая па-свойму»? Дык гэта была шчаслівая сям'я. Яны кахалі адзін аднаго, ва ўсякім разе яна кахала. Ён і зараз са зразумелым мужчынскім гонарам любіць паўтараць, што жонка («Ведаеце, яна была прыгожая жанчына») кахала яго. Мабыць, ён таксама. Яны вучыліся ў медыцынскім інстытуце. Барыс Міхайлавіч канчаў на тры гады раней і перад тым, як паехаць на работу, настаяў, каб Ліда пайшла з ім у загс. Пасля яны разам працавалі ў Старым Крыме, у Арле, Латвіі... Тры гады назад пераехаліся ў Мінск.

І раптам няшчасце. Лідзія Аляксееўна цяжка захварэла. Неўзабаве стала ясна, што няма ніякай надзеі на выратаванне. Яна, як урач, відаць, разумела гэта лепш за іншых. Але кім бы ён ні быў, чалавек заўсёды спадзяецца на лепшае, да самага апошняга дыхання ў ім жыве надзея. Так было і з Лідзіяй Аляксееўнай.

Аднойчы Барыс Міхайлавіч схіліўся над ложкам хворай (ён дняваў і начаваў у клініцы) і ласкава паведаміў жонцы, што яе маці збіраецца разменьваць іх кватэру. Пакой яму, пакой сабе з унукам. Пра гэта расказалі іх агульныя знаёмыя, з якімі быццам бы падзялілася планамі Раіса Рыгораўна.

Хворая змянілася з твару і прашаптала:

— Што яна мяне да часу хавае?

І тут жа папрасіла не пускаць да сябе маці.

Так пачаўся першы раўнд вайны Барыса Міхайлавіча з цёшчай. Я не буду спыняцца на ўсіх яе перыпетыях, хоць цягнецца вайна па сённяшні дзень, а прайшло між іншым ужо паўтара года пасля смерці Лідзіі Аляксееўны. Не буду, таму што ва ўсім гэтым досыць агіднасці і бруду. Здаровы, малады яшчэ мужчына змагаецца са старой кабетай. У яго яшчэ многае наперадзе, у яе — усё ў мінулым. Ён яшчэ шмат чаго набудзе, знойдзе ў жыцці, яна ўсё згубіла. Лідзія Аляксееўна была адзінай яе дачкой, больш дзяцей у старой няма.

Што хоча Раіса Рыгораўна? Бачыць унука, трошкі быць з ім. Гэта адзіны родны чалавек, які ёсць у яе на зямлі. Яна разумее, што закон не на яе баку, што ўсе правы за бацькам. Але па чалавечым праве ёй нельга адмовіць у шчасці бачыць унука...

Я спытаў Барыса Міхайлавіча, чаму ён не пускае старую ў дом, дзе яна раней жыла, расціла ўнука?

— О, вы не ведаеце, які ў яе характар! Яна вельмі ўладарная, настырная, скандальная...

Я сказаў яму, што калі б гэта і было так, усё роўна яна заслугоўвае літасці — безабаронная старая жанчына, аглушаная страшэнным няшчасцем.

Барыс Міхайлавіч зірнуў на мяне і па сухім бляску яго вачэй, па спакоі, які разліўся па ягоным твары, я зразумеў, што гэты чалавек паставіў крыж на мінулым.

— Ці былі вы шчаслівыя з нябожчыцай-жонкай? — спытаў я.

— Так. Але нельга ж вечна жыць старым пачуццём. Няўжо я больш не маю права на шчасце.

Барыс Міхайлавіч хоча шчасця. Хто можа быць супраць! Але навошта штурхацца локцямі? Хаця, локці ўбачыш толькі, калі пільна прыгледзішся. Знешне ўсё прыстойна. Ветлівая ўсмешка, шчырыя інтанацыі. Не ладзіць з былой цёшчай? Не пускае яе ў хату? Дык яна ж для яго зараз — чужы чалавек. А ён цяпер свабодны. Мае ён ці не мае права на новую сям'ю? Такімі пытаннямі атакавала мяне адна з прэтэндэнтак на руку Барыса Міхайлавіча. Я кажу — адна, бо за апошні год іх было некалькі. Кожную з іх маленькі Ігар называў «гэта мой вялікі друг».

Я разбіраюся ў гэтай гісторыі, з гэтымі «нявестамі» і дзіўлюся бесцырымоннасці, настойлівасці, з якой яны імкнуцца заняць месца ў кватэры ўдаўца. Так, так, усе мы людзі, усе чалавекі. Але ж ёсць нейкія межы.

---

# ДЫЯЛОГ:

# БІБЛІЯТЭКАР—ПІСЬМЕННІК

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.)

Правільна тут гаварылі, што мала яшчэ ў нас краязнаўчай літаратуры, і пісьменнікі павінны прыняць гэты сур'ёзны папрок і зрабіць вывады. Але краязнаўства мы не паправім толькі гэтым. Пачынаць трэба са школ. У Літве ўсе школьнікі цудоўна ведаюць гісторыю свайго краю, сваіх мясцін, усе могуць быць гідамі. Нашу экскурсію па дарозе ў Каўнас і па самім горадзе вёў, напрыклад, адзін дзесяцікласнік. Але як ён вёў, як расказваў! Мы і раты разявілі...

Слабая сувязь бібліятэк і школ са сваімі землякамі. Бібліятэкі не выяўляюць іх, не збіраюць пра іх матэрыялы. У школе ж ведаюць толькі пра тых літаратараў, якіх «праходзяць» па праграме, і то ведаюць завочна. Трэба і самім пісьменнікам не забываць сваіх мясцін, клапаціцца пра іх, забяспечыць бібліятэкі патрэбнай і цікавай літаратурай.

**А. Бачыла:**

— Так, мы павінны сустракацца з чытачамі часцей, хоць часам гэта і нялёгка рабіць. Вы павінны выклікаць нас, напрыклад, для шчырых размоў аб Паэзіі з вялікай літары, аб яе сутнасці. Бо многія чытачы лічаць, калі рэч рыфмаваная, то значыць і верш, і паэзія, і нават самі спрабуюць рабіць вершы на такі манер. Пра гэта варта гаварыць усур'ёз, на такія сустрэчы варта выязджаць. Але калі ў вас на запланаваную сустрэчу, даруйце, збіраюцца лічаныя чытачы, калі ўсё праходзіць па зараней напісаных шпаргалках — гэта нецікава. А ці многа карысці ад сустрэч у школах, калі дзеці сходзяцца толькі для таго, каб паглядзець на твар жывога пісьменніка, калі пачынаюць — аўтару ж! — заікаючыся і збіваючыся, чытаць яго ж вершы. Гэта міла, гэта можа крануць якога старога-аўтара, але ж ці намнога гэта паляпшае прапаганду беларускай літаратуры? Або ці можна назваць прапагандай беларускай літаратуры, калі бібліятэкар выступае з дакладам «Рабочая тэма ў творах беларускіх пісьменнікаў»? Каго такая агульная, заказёненая тэма можа зацікавіць? Тут жа безліч падтэм, нюансаў, безліч глыбіні. Калі фармальна паставіцца да такой тэмы, атрымаецца адзін шэры сум. Літаратура — справа сардэчная, душэўная, далікатная. Яна і павінна даходзіць праз свае формы — пачуццёвыя.

Я практыкаваў вось якія выезды да чытачоў. Збіраліся цэлай брыгадай: аўтар тэкстаў, кампазітар, саліст — спявак. Мы гаварылі з чытачамі-слухачамі аб самых таямніцах-вытоках песні, пра тое, як усё нараджаецца, пішацца. Тут жа песня выконвалася, як кажуць, паказвалася. Слухалі нас вельмі хораша, з цікавасцю.

**А. Мальдзіс:**

— Цяперашнія нашы бібліятэкары — маладыя па веку, многага не ведаюць і не памятаюць. А ведаць

Дальбог, проста тэатр масак, дзе ўсе хаваюць уласныя твары.

У адзін з сёлетніх майскіх дзён Раіса Рыгораўна пайшла на могілкі. Справа ў тым, што на помніку, які быў пастаўлены нябожчыцы, Барыс Міхайлавіч зрабіў надпіс толькі ад сябе асабіста. Маці захацелася, каб былі там упамянуты яна і ўнук. Старая дамовілася з рабочымі, што яны такі надпіс зробяць.

Каля магілы дачкі маці ўбачыла незнаёмую жанчыну, на якую спачатку не звярнула ўвагі. Неўзабаве прыйшлі рабочыя, і Раіса Рыгораўна пачала ім тлумачыць, як і што зрабіць. Раптам у размову ўмяшалася незнаёмая. Яна пачала даводзіць, што майстрам не варта слухаць старую, не трэба нічога перарабляць.

Раіса Рыгораўна пацікавілася, хто гэта жанчына, што з такім імпэтам тут распараджаецца. «Я маю права», —пачула яна ў адказ. Са старой зрабілася істэрыка. Людзі, што былі побач, ледзь не сілай вывелі незнаёмую з могілак.

Нейкім чынам Раісе Рыгораўне ўдалося пасля даведацца, хто была гэтая жанчына, і вось яна сядзіць перада мной у рэдакцыі, не старая яшчэ бландзінка, урач. Ларыса Максімаўна (назавем яе так) насцярожана сустракае кожнае пытанне.

— Ларыса Максімаўна,—кажу я,— як маглі вы, культурны, цывілізаваны, як быццам, чалавек пакрыўдзіць старую бездапаможную жанчыну, ды яшчэ дзе — на магіле яе дачкі, на святым для маці месцы?

Госця густа чырванее і апускае галаву.

— На няшчасце, у мяне няма мужа, — ціха вымаўляе яна.

— А мо на шчасце?

— Ах, навошта жартаваць! — усклікае Ларыса Максімаўна.—За Барысам Міхайлавічам ценем ходзяць жанчыны. Толькі выбірай...

— Але пры чым тут могілкі?

Жанчына робіць ледзь прыкметны рух плячыма, і я раптам пачынаю разумець, у чым справа, хаця на ўсякі выпадак пытаюся, ці ведала яна нябожчыцу. Не, не ведала. Яна хадзіла на могілкі, каб зрабіць прыемнае Барысу Міхайлавічу, які з нейкай пары пачаў аказваць ёй знакі ўвагі. Я ўявіў, як стаяла яна каля чужой магілы, з фальшывай жалобай на твары, стаяла з пустым сэрцам, і мне, дальбог, стала не па сабе. Якое кашчунства, які здзек з самага святога і чыстага, што ёсць на зямлі!

Ды яшчэ скандал з маці нябожчыцы... Як яна, урач, штомінутны абавязак якога дапамагчы бліжняму, магла з такім ледзяным спакоем ударыць па сэрцы старога чалавека? Адкуль гэтая душэўная чэрствасць, чым яна жывіцца? Ці не зашмат мы гаворым аб выхаванні спецыяліста, забываючы, што перш-наперш трэба выхаваць у чалавеку—чалавека?

Я заканчваю расказ пра гэту непрыгожую гісторыю. Не, чакайце, я чую, як нехта з чытачоў папракнуў аўтара, маўляў, абяцаў драму ў трох актах, дзе ж трэці? Яшчэ не закончыўся. Барыс Міхайлавіч ажэніцца. Няхай жэніцца. Яго справа. Толькі хай ён і яго жонка (магчыма гэта будзе і Ларыса Максімаўна) ніколі не забываюць пра спагаду, пра чуласць да іншых. Шчасце, пабудаванае на няшчасці другога — нетрывалае...

Перад тым, як публікаваць гэтыя нататкі, я паказаў іх таварышу. Ён прачытаў, меланхалічна пацепаў плячыма і сказаў: «Сэ ля ві».

Гэта французская фраза стала ў нас вельмі моднай. Што б ні зрабілася— сэ ля ві—такое жыццё!

А як па-французску — такое харошае жыццё? Харошае жыццё, у якім месца толькі высокім чалавечым пачуццям...



ле грамадска-палітычнай літаратуры.

# «ДОБРА, ШТО ЗАВІТАЛІ...»



На хвілінку заглянула ў аддзел беларускай кнігі настаўніца П. Князюк і зачыталася...



Загадчык склада А. Шыршыкава выдае новую літаратуру прадаўцу Н. Арловай.



Самы маленькі наведвальнік Аксана Пустальга.



Японскі журналіст Кудо Акіра і яго жонка Кудо Тамака павязуць на радзіму не адны ўспаміны...



А майстар Полацкага ўчастка трэста «Цепламантаж», завочнік Мінскага політэхнічнага інстытута Іван Літвінаў нікога не чуе і не бачыць...

Фота Ул. КРУКА.

Здараецца, што іншы раз пачуеш і такія скаргі прадаўца кнігарні: «Летам у кнігарню заходзяць мала... Людзі ў лес ідуць, да вады...» Калі пагаворыш з такім прадаўцом зімой, дык ён абавязкова паскардзіцца: «Цяпер моладзь не чытае кніжак... Тэлевізары перашкаджаюць... Дастаеўскага або Талстога ў кіно за дзве гадзіны «чытаюць» і кніг не хочуць купляць».

А ў Наваполацкай кнігарні «Узыход» заўсёды шматлюдна. Пакупнікоў вабяць прасторныя, светлыя залы, якія цягнуцца па ўсім першым паверсе вялізнага дома. Магазін з густам аформлены. На паліцах багаты выбар рознай літаратуры.

Многія аматары літаратуры карыстаюцца паслугамі грамадскіх распаўсюджвальнікаў. Грамадскія распаўсюджвальнікі кніг—Валянцін Шаршаў з нафтаперапрацоўчага, Марыя Занько з хімкамбіната, Нэла Ячная, піянерважатая школы № 1 і іншыя прапагандуюць творы беларускіх пісьменнікаў. У цэхах прадпрыемстваў у час абедзеннага перапынку можна набыць вядомыя раманы і аповесці М. Лынькова, Я. Маўра, П. Пестрака, Р. Сабаленкі, вершы Я. Купалы, Ул. Дубоўкі, В. Віткі і іншых аўтараў.

Добры, удумлівы прапагандыст твораў нашых пісьменнікаў выкладчыца беларускай мовы і літаратуры Паліна Данілаўна Князюк. Яна рэгулярна заходзіць у магазін, знаёміцца з навінкамі, а потым раіць вучням наведаць кнігарню, набыць тую ці іншую кніжку.

Іншыя пакупнікі зрабілі заяўкі на патрэбную літаратуру і спакойна чакаюць паштоўку-паведамленне. А той, хто наведвае кнігарню, рэдка калі вернецца дамоў з пустымі рукамі.

Усе работнікі магазіна—людзі не выпадковыя ў кніжным гандлі. Яны шырока ўжываюць розныя формы прапаганды мастацкай літаратуры. Выйшаў новы раман або зборнік вершаў — яго адразу ставяць на паліцу навінак, аб ім змяшчаюць анатацыі ў газеце. Для агітатараў і прапагандыстаў штодзённа абнаўляецца асобная вітрына. Пісьменнікам, творчасць якіх вучні вывучаюць у школе, прысвечаны некалькі стэндаў. А калі завітаюць сюды маленькія пакупнікі — так і разбягаюцца ў іх вочы — столькі каляровых вокладак, яркіх малюнкаў вабяць іх.

Не мінаюць магазін і шматлікія госці Наваполацка. Тыя, хто прыехалі з братніх рэспублік, вязуць у свае гарады і вёскі мастацкую, палітычную і навуковую літаратуру, альбомы і буклеты з відамі Беларусі.

Нядаўна новыя кнігі набылі англійскія інжынеры, японскі журналіст, рабочыя з Румыніі і Польшчы, якія наведалі самы малады горад рэспублікі.

Многіх наведвальнікаў магазіна прадаўцы добра ведаюць, вывучылі іх попыт. Таму, калі заходзіць той ці іншы чалавек, можна пачуць такую гаворку.

— Добра, што завіталі. Атрымалі кніжкі, якія вас цікавяць...

**Ул. ГАРПЕНІК.**

---

яны павінны многа, у тым ліку тое, што беларуская кніга мае вялікую гісторыю. Нягледзячы на ўсе войны, пажары і разбурэнні, якія не раз праносіліся над нашым краем, яшчэ многа чаго захавалася. Гэта я гавару вам як даследчык, які аб'ехаў не адзін архіў і шмат чаго з нашай культурнай спадчыны бачыў. Ёсць падставы меркаваць, што захаваліся дзе-нідзе кнігі С. Буднага, В. Цяпінскага. Пушкінскі дом, напрыклад, або бібліятэка Салтыкова-Шчадрына кожны год расшуквае вялікай каштоўнасці кнігі. У адным Слуцку ў II-й палове XVII ст. было выдана больш дваццаці кніг, тыраж некаторых перавышаў некалькі тысяч экземпляраў. Ёсць беларускія першадрукі і ў кнігасховішчах нашай краіны, і за мяжой, асабліва ў Швецыі, куды яны былі вывезены ў час шведска-рускай вайны, ёсць кнігі і ў прыватных асоб. Бібліятэкары павінны дапамагчы знайсці гэтыя скарбы.

Трэба пісаць гісторыю нашых бібліятэк. Яна часам пачыналася не з 1917 ці 1945 года, а на стагоддзі раней. Дзвесце бібліятэк было да рэвалюцыі ў Беларусі, часам вельмі цікавыя, проста унікальныя зборы. У Шчорсаўскіх Храптовічаў былі такія кнігі, якіх мо нідзе больш і на свеце не захавалася. А бібліятэка слуцкага пастара Бергеля? У ёй шмат было кніг, выдадзеных у Слуцку, Нясвіжы, Любчы, Вільні.

Трэба бібліятэкарам больш цікавіцца мінулым, больш вывучаць яго.

**Я. Скрыган:**

— Тут правільна падкрэслівалі: бібліятэкі павінны несці славу і гонар свайго раёна «ў светы», рабіць усё, каб людзі ведалі пра сваіх землякоў і іх справы. На адной сустрэчы нам было вельмі прыкра, як адзін з кіраўнікоў раёна, аўтарытэтны і заслужаны чалавек, ніяк не мог назваць правільна прозвішча вядомага пісьменніка-земляка, хрысціў і перакручваў яго так і гэтак. Выходзіць, што чалавек акрамя сваёй працы больш нічым не цікавіцца, не чытае сваіх землякоў.

У красавіку ў газеце «Літаратура і мастацтва» было надрукавана пісьмо Вольгі Булатавай, якая служыць на Паміры на гідраметэастанцыі. Скардзілася жанчына, што нерэгулярна атрымлівае «Літаратуру і мастацтва». Відаць, пісала яна, на сартыроўцы працуюць няўважлівыя людзі. «Каб яны ведалі, з якой прагнасцю мы тут чакаем вестачку з роднай зямлі!» Вось так трэба любіць сваю родную старонку, не забываць пра яе, не цурацца, выпісваць свае выданні хоць на край свету. Я расчуліўся ад яе пісьма і паслаў ёй вялікую пасылку кніг беларускіх пісьменнікаў. Каб вы ведалі, таварышы, якое залатое пісьмо яна прыслала, як дзякавала... Пра сябе расказала, пра сваю работу...

А мы жывем тут, усяго ў нас тут хапае чытаць, а мы не цікавімся. Праз кнігу мы можам і павінны выхоўваць любоў да родных мясцін, да сваёй Радзімы. Праз кнігу мы мацней за ўсё можам фарміраваць светапогляд моладзі.

Упершыню за ўсю гісторыю Беларусі выдаецца ў нас БелСЭ. Тыраж— дваццаць тысяч экземпляраў. А я чуў сёння на гэтай сустрэчы, што ў нас адных бібліятэк больш за дваццаць тысяч! А колькі школ, колькі інтэлігенцыі... Сорамна! Эстонія мае усяго каля мільёна жыхароў, а энцыклапедыю выпускае тыражом 75 тысяч экземпляраў. Не павінны спакойна адносіцца да гэтага факту бібліятэкары. Прапаганда БелСЭ — гэта прапаганда беларускай літаратуры, культуры, мастацтва, навукі і бібліятэкары павінны яе прапагандаваць.

Запісаў **П. Місько.**

Мікола ВОРАНАЎ

АПАВЯДАННЕ




У ЛЯСНІЦТВЕ яго звалі Тарасам Патапавічам, а ў Пунішчы — хутаранінам. Не ўсе, вядома. Часцей — Гур'ян Квач. Як што, дык ён: хутаранін! Па-праўдзе, дык і пачапіў гэтую мянушку на Тараса Гур'ян. А было так. Злавіў Тарас Гур'яна на парубцы і склаў акт. Гур'ян паражняком прыехаў з лесу і ля кузні паскардзіўся мужчынам:

— Хацеў на дошкі прывезці, ды хутаранін упільнаваў...

— Як ты сказаў—хутаранін? Га-га-га. А лоўка ён цябе ўчэпаў! Ты б, Гур'ян, куш яму—бутэль гаркухі ці яшчэ што, — рагатаў каваль Дарафей.

— Во яму, а не куш...—паказаў Гур'ян дулю.

Мужчыны пацяшаліся, а Гур'ян сердаваў яшчэ больш.

Мо' так і не прыліпла б тая мянушка, калі б жыў Тарас у Пунішчы, а не трошачкі воддаль, на беразе плыткай Баброўкі. Будаваўся пасля вайны. На ўсё Пунішча быў тады адзін конь і той кульгавы. Тарас спіхваў бярвенне ў Баброўку, вязаў і плытамі прыганяў да голага, як бубен, грудка. Паўсцягваў на яго бярвенне, паставіў хату, ды так і не перавёз пасля ў Пунішча: усё неяк не выпадала, ды і нялёгка яно, калі разабрацца, раскідаць, перавезці і зноў паставіць.

Чалавек Тарас памяркоўны, не любіць залішне балбатаць, але і маўчуном не будзе на людзях—паслухае, падтакне на талковае слова, сам штонебудзь скажа.

Праўда, на людзях яму не часта і пабыць выпадае. Зімой дык трохі вальней, а летам у лесе ды ў лесе: абход вялікі, работы процьма. І Тарас, бывае, просіць брыгадзіраў, каб далі чалавека—двух у лес. Надоечы папрасіў у Пунішчы. Брыгадзір паслаў Дарафея (у кузні пільнай работы не было) і Гур'яна.

Дужаку Дарафею ўсё роўна, дзе сілу прыкласці: ля кавадла ці ля пнёўя—шчыраваў, аж узмакрэў. А Гур'ян неяк так сабе: шырока не ступіць, многа не падыме. Тарас ажно здзівіўся: ці ж так трэба ў лесе варушыцца? І калі Гур'ян адвярнуўся, сказаў Дарафею:

— От жа собіла табе з кім...

Дарафей выпрастаўся, закурыў і, выпусціўшы з рота клуб дыму, адказаў:

— Собіла, кажаш? Ён часта са мной бывае. Знарок брыгадзір пасылае ў кузню. Ля кавадла яму не ў грамадзе—не будзе блынды правіць. Раз дык прасіцца стаў: молат, кажа, выпушчу. А я на яго—пляшчы, пляшчы. І ведаеш, як адпляскаў? Рукі ягоныя не заганіш — і молатам, і гэблем умеюць. Дома да паўночы стругае ў клуні.

— Кадкі ўсё робіць?

— Хто яго ведае.

З-за ясеня паказаўся Гур'ян:

— Нешта мне ікалася. Няйначай пра мяне гаварылі?

Дарафей кінуў акурак, растаптаў ботам і глянуў на Гур'яна:

— Ікалася, бо бульбай акарміла цябе Гілена...

Вечарэла. Пацягвала верасвёўскім халадком. З нізіны, парослай папаратнікам і багуном, выпаўзаў туман, нёс пах тлёну і багуну.

— Гэта ж ужо і дамоў пара,— Гур'ян задраў галаву і ўгледзеўся ў гонкую яліну.—От бы паваліць такую ды расчыкрыжыць. А то б даў, Тарас Патапавіч? Плата мне за работу не трэба, а во, каб такую спілаваць...

— Ці яна мая, Гур'ян, — адказаў Тарас. — Ты лепей атрымай, што зарабіў, заплаці і пілуй.

— Яно ўсё роўна...—Гур'ян маўкліва паплёўся за мужчынамі.

□ □ □

Рана падымаецца Тарас.

— Спаў бы яшчэ, як усе людзі.—Пёкла налівае ў кубак вячэрняга малака.—Ці табе дня не хапае?

Ён дапівае малако, выцірае парудзелыя вусы і выходзіць у сенцы. Там нечага кешкаецца, штосьці шукае. І вось Пёкла ўжо бачыць яго на паплавіне. Абіваючы расу на парыжэлай пожні, Тарас прастуе ў абход. У лесніка такая завядзёнка: пабыць у абходзе ранічкай і вечарам—днём мала хто намерыцца самавольна сячы: не ў лесе, дык па дарозе ці дома ўчэпаюць.

Неба ледзьве палавее. Да ўзмежкаў войлакам пластаецца туман, настоены пахамі зябліва і позняга верасу. Дзесьці за выжарынай азваліся жураўы. Тарас прыслухаўся, але замест жураўоў учуў рыпенне колаў, глухі грукат. «Каму б гэта ў такую рань? А-а, сёння ж нядзеля — кірмашовы дзень». Тарас угледзеўся на глыжаватую дарогу. З-за прыдарожнага лазняку паказалася падвода. На ёй бялелі прывязаныя да білаў кадкі і дзежы-хлебніцы. На меншай хлебніцы сядзеў Гур'ян і, шлёгаючы ляйчынай, панокваў, хоць конік і так ішоў спорненька.

Параўняліся. Гур'ян, мусіць, здалёк яшчэ змеціў Тараса і, каб не ўступаць у гаворку, адвярнуўся, нібыта не бачыць. Тарас гукнуў першы:

— Добрай ранічкі, Гур'ян!

Цяпер ужо хочаш не хочаш—трэба паварочвацца, і Гур'ян азваўся:

— Добрага здароўя. І ты раненька сёння выбраўся.

— Трэба.—Тарас паглядзеў на кадкі.—Прадаваць вязеш?

— Ды во з лета яшчэ стаялі, адвязу...—нокнуў і сцебануў коніка, відаць, каб адчапіцца ад Тараса. Тарас не адставаў.

— А на від і не скажаш, што з лета. Беленькія і дрэвам пахнуць, як учора роблены. У мяне да цябе просьба, Гур'ян. Ведаеш, дзе старыя дубы?

— Ну, ведаю, а што?

— Заехаў бы туды, як будзеш вяртацца. Я там жалудоў сабраў, трэба прывезці. Дык не забудзеш, Гур'ян?

— На памяць яшчэ не крыўдаваў.

— Яны там у мяшках будуць ля крайняга дуба.—І, мінаючы вымазанае каланіцай прыдарожнае кустоўе, Тарас падаўся сваім кірункам.

Мінаваў зяблевае поле, перайшоў па кладцы зарослую бабоўнікам ручаіну і выйшаў на чыстую паляну, за




якой пачынаўся лес. Там і старадрэвіны, і маладыя пасадкі — болей за ўсё дубняку. Любіць яго Тарас. І ля Чорных выгарак дубкі, і ля Бусліната ўрочышча, і за Мацеевым хутарам. Многа дзе іх панасадзіў Тарас—і да вайны, і пасля вайны.

Ужо на ўзлеску ляснік узяў трошкі ўлева—да старых дубоў. «Пагляджу, як там у садзе цяперака...»

На Мацеевым хутары раслі дзікія яблыні, дрэўцаў так з дзесяць. Дробныя і кіслыя, як журавіны, яблыкі ападалі і гнілі. Ідзе, бывала, увосень Тарас, а яны—хрусь-хрусь пад ботамі, ажно шкада: садавіна ўсё ж. І надумаў Тарас прышчапіць дзічкі. Дома ў яго быў добры сад, і ён браў там чаранкі. За гэтым заняткам яго застала неяк Пёкла.

— Што ты з імі ўдумаў рабіць, Тарас?

— Хачу бярэзіну прышчапіць, — пажартаваў Тарас,—накармлю цябе, Пёкла, бярозавымі яблыкамі.

— Як помню цябе, дзяцінішся ты. Ці ж разумнейшага занятку няма?

— Ёсць, Пёкла, ёсць.

І во перарадзіліся дзічкі, яблыкі пабуйнелі і сталі саладчэйшымі. Выспелі, праўда, пазнавата. Мусіць, ад таго, што і зацвілі яблыні пазней, чым у вясковых садах.

Тарас сарваў некалькі штук і падумаў: «Трэба сказаць у Пунішчы, каб паабіралі, бо пагніюць, як некалі дзікія».

Ён падышоў да дубкоў, паўсыпаў у мяхі жалуды—два пад завязку выйшла— і падаўся глыбей у абход.

У Пунішча Тарас вярнуўся надвячоркам. За брыгаднымі гумнамі бляялі авечкі, рыкалі каровы—пастухі падганялі статак бліжэй, бо ўжо і заганяць неўзабаве. Ля ракі гаманілі жанкі, мачылі апошні лён. У Пунішчы трасту не сцелюць, а мочаць. Кажуць, што мочаная больш грашавітая. І нядзеля, а працуюць, спяшаюцца, пакуль цёпла.

Ля кузні запаволіў хаду і ўбачыў у праёмах дзвярэй Дарафея: гакаў молатам ля тоўстай калоды.

— І табе, Дарафей, выхаднога няма,—сказаў, прывітаўшыся, Тарас.— Плешчаш ды плешчаш усё.

— Пляшчу. Прысядзь вунь на кругляк, я зараз дакую.—І зноў—гак, гак па чырвоным пруце, відаць, шворан будзе для калёс.

Тарас аглядаў кузню. Тут і парадак, і беспарадак. На сценах паліцы, на якіх акуратненька стаяць скрыначкі з гайкамі, вухналямі, клёпкамі— парадак, у правым вуглу згрувашчана вуголле, жалеза—беспарадак.

Дарафей акунуў прут у ваду, цоўкнула і запахла кіславатай парай.

— Ну во, зашварную калёсы.— Дарафей выпрастаўся і павярнуўся да Тараса.—Ты вельмі спяшаешся дамоў?—І, не чакаючы адказу, прапанаваў:— Давай сходзім да мяне ў лазню. От жа напалена добра.

— У лазню можна,—падахвоціўся Тарас.

Рубленая з асіны лазня стаяла на ўскрайку гарода ля старой таполі. Звонку будынінка—куды ўжо меншая, а ў сценах—і месца, і ўтулку хапае. У печ умуравана абрэзаная бочка, з якой клубілася гарачая пара. Ля сцен нізенькія, добра выгабляваныя лавачкі, а ля столі—шырокі палок. Першы на яго палез Дарафей. «Цях-цях-цях»...—сцёгваў ён сябе венікам, і на ўсю лазню вохкаў, быццам яго сек хто другі.

— Патапавіч, яшчэ паддлі. Охо-хохо, го-ой...

Ружовы, як толькі што народжаны, Дарафей саскочыў з палка і абдаў твар студзёнкай.

— У-ух, да касцей праняла. Залазь, Патапавіч. Люблю вясковую лазню. Летась, як гасціў у Сцяпана ў Віцебску, у гарадскую хадзіў — не тое: сяку, сяку—усё роўна свярбіць. Там і веніка добрага няма— пруцце сухое. У мяне дык і дубовых і бярозавых на гарышчы панавешана. А там, калі хочаш, выдумаюць гэтыя, як іх, капронавыя ці нейлонавыя...

Пакуль памыліся, ужо добра ўмеркла. Над гародам плаваў вялы туман. Пахла бульбянішчам і вялым агурэчнікам. У небе чорнымі аўчынкамі плылі на высціжкі хмары, за ракою ўспыхнула бэзавая ўспышка. Відаць, збіралася на дождж.

— Зойдзем у хату, Патапавіч. Мальвіна хадзіла ў краму, ручаюся, што прынесла на нядзельны дзень...

Калі пераступілі парог, Дарафей сказаў жонцы:

— Мальвіна, збяры чаго-небудзь на стол, бачыш, во чалавек зайшоў...

— Або няма чаго падаць?—азвалася Мальвіна.—Аддыхайцеся трошачкі, я скоранька.

Дарафей тым часам выклаў на стол яблыкі:

— Пасля лазні добра крамяненькіх пахрупаць.

Тарас хацеў папытаць, адкуль у Дарафея яблыкі: свайго ж саду няма. Але Дарафей сам вёў далей:

— Гэта мне сёння Гур'ян насыпаў вядро. І накупляў жа ён іх—дзве поўныя кадкі вёз з кірмашу, казаў, мачыць будзе.

Тарас задумаўся, у галаве цюкнула здагадка: «Дык во чаму ён жалуды не забраў: на яблыкі натрапіў...»

Яшчэ падумаў і сказаў Дарафею:

— Такіх яблыкаў, Дарафей, хоць воз бяры на Мацеевым хутары, ніхто грошай не спросіць...

— Каму яна патрэбна, драбната кіслая?

— Была кіслая, а цяпер во...— Тарас дастаў з кішэні яблык, што адарваў днём на Мацеевым хутары, і паклаў на стол.—Бачыш, акурат, як гэтыя, што «купіў» Гур'ян на кірмашы.

І расказаў Дарафею пра ўсё.

Дарафей верыў і не верыў. Каб не сам Тарас казаў, можа б і не паверыў...

Раніцай ліў дождж. Не пераставаў ён і днём. Колькі разоў Тарас выходзіў у сенцы і, прыадчыніўшы дзверы, углядаўся ў неба: яно цёмнае і згорбленае ад хмар, з якіх усё сыпала ды сыпала. Кроплі барабанілі па шкле, лапаталі па бульбоўніку, які павешаў Тарас на азярод ля хлеўчука.

Надвячоркам дождж перастаў, толькі вецер усё не аціхаў, гнуў над ракой лозы, кідаў іх на грывы хваль. «Ну, вецер мне не бяда, балазе зверху не цурболіць»,—меркаваў Тарас, соваючы рукі ў тоўстыя рукавы ватоўкі. Потым, на ўсякі выпадак, накінуў на плечы плашч-дажджавік. Дайшоў да сянец, перадумаў і вярнуўся. Скінуў кірзавыя боты, пераабуўся ў гумовыя—гэтыя хлюпаты не баяцца.

Ужо калі Тарас узяўся за клямку, Пёкла папытала:

— Ці скора ж хоць вернешся?

— А чаго мне бавіцца?

Хуценька выйшаў на двор і праз гародчык папраставаў на Дарафееву хату. Чоўкала пад ботамі раскіслае бульбянішча, булькатала ў разорах вада, шалёстала аб халявы крыссё плашча. Тарас борздзенька перастаўляў ногі, махаў рукамі — спяшаўся, бо ўжо хутка пачне сутоньвацца.

Дарафей быў якраз дома. Паглядзеў на цёплы Тарасаў апратак, папытаў:

— Куды, Патапавіч, выбраўся?

— Да старых дубоў хачу дабрацца. Сабраў там жалудоў на насенне, трэба перавезці, бо пагніюць на дажджы ці дзікі паядуць. Дык я надумаў на тваёй лодцы. Ці на замку яна?

— Хто яе замыкаў! Вазьмі штонебудзь ваду вычарпаць, наліло ж.

— Я на бераг усцягну дый перакулю.

— Можа пасобіць?

— Не, дзякую, — Тарас ступіў за парог.

Лодка стаяла ў лазняку ля пясчанай касы. Тарас выліў ваду, спіхнуў лодку і ўпёрся вяслом у дно. Шорхнула пад днішчам, зашастаў сухі чарот, і лодка выйшла на сярэдзіну ракі. Баброўка цячэ шпарка, і супраць плыні грабсці цяжкавата. Добра, хоць вецер спадарожны, пасабляе. Гнуўся насустрач стрэлкаліст, ішоў пад днішча вадакрас, чаплялася за вёслы плакун-трава, а Тарас гроб, налягаў. Думкі як бы пакінулі яго ў гэты час. Акрамя вёслаў, нічога не хацеў ведаць ляснік. Сонца, мусіць, яшчэ не зайшло, іначай бы ў хмарнае надвор'е ужо пачало б змяркацца, цямнець. Злева, на мелкаводдзі, у завадзі, атуленай нізкарослым чаротам і асочнікам, стаяла чапля, цярпліва падпільноўваючы рыбу. Занятая сваім клопатам, яна, напэўна, не заўважала чалавека. І толькі, калі лодка падышла зусім блізка, чапля ўзмахнула крыламі і нізенька, ледзь не чапляючы імі балотнай травы, паляцела на Чорныя выгаркі.

Праз якую гадзіну лодка чыркнула носам аб жвірысты бераг. Тарас усцягнуў яе вышэй і падаўся да дубоў, што метраў за трыста ад берагу высока ўзнялі густыя шаты.

Мяхі ён паставіў бліжэй да кармы, каб вышэй задраўся нос—тады лодка пойдзе шпарчэй.

Па плыні яна і праўда ішла хутчэй, вёсламі цяпер Тарас не веславаў, а толькі кіраваў. Сцюдзёны вецер дзьмуў цяпер у твар, аж слязіліся вочы. Тарас насоўваў на лоб шапку і хіліў галаву, хаваўся за мяхамі ад ветру. Гусцела асенняе сутонне. З-за хмаркі выкаціўся веташок і паплыў навысцігі з лодкай. Потым схаваўся за другой, большай хмаркай, і зноў пацямнела. Вада здавалася густой і чорнай, як дзёгаць. Недзе ў лазняку булькатала, цурчэла ў раку дажджавая вада з ручайка.

Уперадзе, перад носам лодкі, вытыркнуўся з вады канец утопленага бервяна, згубленага, мабыць, калісьці плытагонамі. Тарас хацеў павярнуць лодку, але не паспеў. Яна наскочыла носам на дрэва, з шоргатам пайшла па ім днішчам і нахілілася ўлева. Туды ж паваліўся і мех з жалудамі. Лодка нахілілася яшчэ больш, зачэрпнула вады, і калі Тарас ускочыў з лаўкі, пласкадонка пайшла ўжо ўніз .Золкая вада астудзёніла цела. Тарас закрычаў...

□ □ □

Знайшлі яго назаўтра.

Пунішчанскія хлопцы ішлі перад гэтым на вечарынку ў Карпавічы і чулі чыйсці крык. Яны кінуліся да ракі, але было далекавата, і калі дабеглі, нічога ўжо не было чуваць. Указалі, дзе гэта было, і ля берагу, у чароце, знайшлі шапку лесніка. Дарафей, стоячы ў лодцы, вадзіў па дне басаком, і метры за тры ад берагу зачапіў за Тарасаў дажджавік...

Хаваць Тараса выйшла ўсё Пунішча. Жанкі, як маглі, суцяшалі Пёклу:

— Кожнаму, Пёкла, свой лёс наканаваны—ад яго нікуды не ўцячэш. Відаць, так суджана твайму Тарасу.

Яна галасіла яшчэ больш, а калі на свежым грудку паставілі крыж, Пёкла абамлела, назад яе вялі жанчыны пад рукі.

— Годзе, годзе, Пёкла. Слязьмі не пасобіш, толькі сябе высушыш,— спагадалі ўдаве.

Мужчыны ішлі сваёй купай. Маўчалі. Першы падаў голас Гур'ян:

— Быў чалавек і не стала, во як бывае. І праз што? Праз нейкія жалуды.

Яму адказаў Дарафей:

— Ты, Гур'ян, калі хочаш сказаць што, падумай спярша

# ДАЛЁКА АД ГЛЫБОКАГА

Эрнест ЯЛУГІН,

спец. кар. «Літаратуры і мастацтва».

...ПЛЕД спаўзаў са старэчай спіны, і пан Зігер перасмыкнуў вузкімі і худымі плячыма. Сагнутыя ў локцях доўгія рукі стукаліся адна аб адну. З крэслаў, пастаўленых у рад ля акна, адразу пачуўся смех. Нязграбнага старога немца, што ў канцы свайго жыцця з чыста бюргерскай сентыментальнасцю прыдумаў гэтае падарожжа, было нейк па-чалавечы шкада.

— Пан афіцэр, не злуйцеся... Зараз я вам памыю ногі...— гаворыць яму жанчына з добрым і змучаным тварам.

— Саша, — сказала Парфяновічу Зарыцкая, — Зігер — не такі чалавек, з сентыментальных фантазій якога толькі можна пасмяяцца. Прыслухайся да сябе...

— Ой, Антонавіч, нам так Гнат патрэбен...

— Пакуль шукайце замену. Не магу...

— Шукайце... Чацверты Гнат ужо... А дзе іх набярэшся?

— Адолееце, Зоя Ігнатаўна.

Зарыцкая не можа схаваць шкадаванне, уздыхае. «Самадзейнасць... Увесь час новыя і новыя людзі».

Упершыню падсвільскі драмкалектыў трымаў «уступны» экзамен перад гледачамі ў ліпені 1964 года спектаклем па драме ўкраінскага драматурга Бабілевіча «Бесталанная». Гэтую п'есу Зоя Ігнатаўна прывезла з сабой з Украіны, дзе працавала некалькі год пасля медыцынскага вучылішча. Прыехала ў Падсвілле ў канцы красавіка, а ў пачатку мая пачаліся рэпетыцыі драмгуртка.

Але хутка рэпетыцыя канчаецца. Праз няроўны квадрат акна прабіваюцца слабыя ўжо водбліскі вячэрняга сонца. Рыпяць крэслы, праз адчыненыя ў суседні пакой дзверы цягне нежылым — некалі там была глядзельная зала, зараз — склад старога рэквізіту і непатрэбнай мэблі. Ніхто, здаецца, гэтага не заўважае.

— Заўтра ў такі ж час? — пытаецца ў Зарыцкай дзяўчына ў акулярах.

— У такі ж.

— Ведаеце, якога я рака нядаўна злавіў? Во! — Валеры Сіўко разводзіць рукі. Смех...

— А я, калі прыехала, ракаў толькі пінцэтам і брала,—гаворыць Зарыцкая.— Ушчамлю пінцэтам і ў каструлю.

— Ха-ха-ха!

Усміхаецца і Станіслаў Закрэўскі — ён адчувае сябе маладзейшым сярод хлопцаў і дзяўчат. Ветэран калектыву...

— Браніслававіч, — не пакідаюць у спакоі і яго, — а ці праўда, што жонка вам аднойчы запіску пакінула: «Або я, або сцэна»?

— Гэта ж не мне, — усміхаецца Закрэўскі. — Майму знаёмаму.

А галоўны ўрач падсвільскай бальніцы Лабейка яшчэ толькі зайшоў — імкліва, вочы пільныя, заклапочаныя. Напэўна, такі ён бывае, калі абыходзіць палаты.

— Па роль, Антонавіч?—вітаюць яго.

— А? Не, не, таварышы. Так, па дарозе, з цікавасці... Сын падрасце — тады можа зноў вярнуся да вас. Як Зігер?

Нібы пра пульс пытаецца.

— Вырысоўваецца, — ківае Зарыцкая. — Але яшчэ многа засталося ад сентыментальнага старога...

— Ну, гэта былі яшчэ тыя сентыменталісты. Такія вельмі клапоцяцца аб сваім здароўі. За кошт іншых. Іншыя для такіх — матэрыял.

Да гэтага часу ў пасялковым клубе такога гуртка не было. Сяды-тады ў канцэртнай праграме сустракаліся інсцэніроўкі, скетчы. Але каб многаактавыя п'есы ставілі — такога не было. Людзі ў калектыў прыйшлі зусім новыя, «неабстраляныя», было невядома, хто на што здатны. Пачаць з аднаактоўкі было прасцей. Але хацелася ёй з першых крокаў прывучыць калектыў да сур'ёзнай работы. Ды і гледача маглі знайсці толькі так. Трэба было, каб людзі запомнілі гурткоўцаў, паверылі ў іх. А ў самадзейнасці так — учарашні глядач можа заўтра сам стаць удзельнікам наступнага спектакля. Да гэтага Зарыцкая чатыры гады кіравала драмгуртком на Украіне і паспела набыць сякі-такі вопыт.

Працавалі ўсе з агеньчыкам, натхнёна. За тры месяцы п'еса была гатова да пастаноўкі. Гледачы прынялі спектакль вельмі добра. Напэўна, яшчэ і таму, што ён быў першы, і яго не судзілі строга. Сама ж Зарыцкая не вельмі была задаволена вынікамі. Не зусім разышліся ролі, атрымалася хутчэй бытавая меладрама, а хацелася зрабіць глыбокі сацыяльны спектакль. Надоўга засталося ў сэрцы глухое нездавальненне, даймала неадольнае жаданне зноў вярнуцца да гэтай п'есы, прачытаць яе па-новаму, даць спектаклю другое жыццё. Вярнуліся да «Бесталаннай» праз чатыры гады.

Людзі ў калектыў прыходзілі па-рознаму. Некалькі чалавек Зарыцкая «завербавала» сярод калег-урачоў. У часе сяброўскай вечарынкі ці проста пасля чарговай пяціхвілінкі на рабоце ўзнікалі размовы аб літаратуры, аб тэатры. Зарыцкая ўпарта даводзіла сваё: ніякі від мастацтва не замяніць сцэну. І тут жа:

— У вас добрыя сцэнічныя дадзеныя. І роля ёсць — ну акурат для вас! Паспрабавалі б, га? Ну, хоць прыйдзіце глянуць, як мы рэпеціруем.

Іншы раз «агітатарам» станавілася бормашына... Зоя Ігнатаўна смяецца:

— Таго, хто трапляе ў зубаўрачэбнае крэсла, вельмі лёгка ўгаварыць. Хоць на адну-дзве рэпетыцыі, але прыходзілі мае пацыенты. Бывала, што і падабалася чалавеку. Такія заставаліся надоўга.

За возерам Белым ёсць вёска Свіла. Ад яе да Падсвілля — больш трох кіламетраў лясной дарогі. У Свіле ўжо многа год жыў стары Мікалай Сцяпанавіч Акунявец. Чалавек шмат бачыў на сваім вяку, з ім было цікава пагаварыць. А больш за ўсё вабіла людзей скрыпка старога. Быў ён жаданым госцем на вяселлях. Часта стары выходзіў летнім вечарам на прызбу сваёй хаты і граў проста так, «для душы». Не было выпадку, каб праз якіх паўгадзіны не збіралася поўны падворак слухачоў.

І вось аднойчы Мікалай Сцяпанавіч глядзеў спектакль падсвільскага драмкалектыву. А пасля адшукаў Зарыцкую і сказаў ёй:

— Бачу, вам музыка патрэбен: там у вас роля цыгана ёсць. Калі пажадаеце, я мог бы сыграць.

З таго часу бачылі людзі, як ішоў стары Мікалай Акунявец на рэпетыцыю ў пасялковы Дом культуры. Ездзіў ён потым з гурткоўцамі па вёсках, граў у спектаклях са сваёй нязменнай спадарожніцай — скрыпкай, удзельнічаў нават у абласным аглядзе драмкалектываў і быў адзначаны журы.

Нядаўна, на 73 годзе жыцця Мікалай Сцяпанавіч памёр, і гэтыя радкі — словы развітання з таленавітым сялянскім самародкам, які на старасці знайшоў сваё сапраўднае прызванне.

А Мікалай Цішкоў, дзіцячы ўрач мясцовай бальніцы, хацеў, каб людзі ўбачылі на сцэне сапраўднага работніка медыцыны, яго пачуцці, адчулі ўвесь цяжар той маральнай адказнасці, якую ён адчувае. І потым бліскуча выканаў ролю Вадзіма ў п'есе Дзялендзіка «Чатыры крыжы на сонцы». І Таран з «Фараонаў» украінскага драматурга Каламійца атрымаўся ў яго ўдалым. У Цішкова аднолькава добра ідуць і трагічныя, і лірычныя, і камічныя ролі. У «Бесталаннай» сыграў нават дзве ролі ў адным спектаклі: валявога Івана, а потым яшчэ нясмелага сялянскага хлопца Сцяпана. І калі хто блізка не ведаў Цішкова, то не мог сказаць, што ў абодвух выпадках быў адзін і той жа акцёр.

Валерый Сіўко прыйшоў у калектыў пасля некалькіх год заняткаў у драмгуртку пасялковага Дома піянераў, якім таксама кіруе Зарыцкая. З усіх бакоў цякуць свежыя струмені ў іх крынічку!

Часам яны пасля рэпетыцыі сядзяць у більярднай яшчэ доўга. Гутарка то робіцца агульнай, то разбіваецца «па інтарэсах».

Мы ідзём з Зояй Ігнатаўнай па Падсвіллі.

— Я сама,— кажа Зарыцкая,— доўга не магла дакладна сыграць Жыгліцкую ў п'есе І. Козела «Над хвалямі Серабранкі», пакуль не прыгледзелася да адной сваёй суседкі...

Тут дарэчы будзе, напэўна, прыгадаць такі выпадак. Спектакль «Над хвалямі Серабранкі» ў пастаноўцы падсвільцаў— адзін з папулярных у сельскіх гледачоў. Падзеі, што разгортваюцца ў спектаклі, успрымаюцца гледачамі шчыра, непасрэдна.

— Аднойчы,— расказвае актыўная ўдзельніца драмгуртка—работніца дзіцячай бібліятэкі Марыя Баравік,—Жыгліцкая—Зарыцкая надта ж ужо дапякала Ядзі. Дык нейкі дзед, што сядзеў у першых радах, не вытрымаў: «Ядзя! Не маўчы ты! Не маўчы гэтай карзе! Вазьмі дубец ды дубцом яе!».

У кожнага з гурткоўцаў вельмі мала вольнага часу — і праца на прадпрыемстве, і хатнія справы. Але ўсе яны — і нарміроўшчыца будаўнічага ўчастка Валя Старанік, і качагар Валеры Сіўко, і лабарантка вінзавода Хрысціна Кашко, і бібліятэкар Марыя Кайранец, і іншыя старанна працуюць над ролямі, не прапускаюць рэпетыцый, не раз і не два прыходзяць нават на работу ці да дому да свайго рэжысёра, каб нешта высветліць, удакладніць.

— Іншы раз ідзём па Падсвіллі і я думаю... — разважае Зарыцкая.— Колькі антэн тэлевізійных над дамамі!.. Інфармацыя, як цяпер кажуць, даходзіць да нас гэтак жа хутка, як да мінчан. А мы ж нават ад Глыбокага, раённага цэнтра, і то далекавата, дваццаць кіламетраў. Але можна быць правінцыялам і ў Мінску. Калі ўвесь час ведаць толькі работу, а ўвечары сіднем праседжваць каля тэлевізара... Гэта ж мы, як прыедзем у Мінск, то колькі паспяваем за некалькі дзён дабра атрымаць! І ў тэатр сходзім разы два, і на выстаўкі розныя, і ў музеі. Дзіву даюся, што некаторыя мае знаёмыя мінчане гадамі ў тэатры не бываюць, музей ніяк не збяруцца наведаць. Не, ніштo не можа замяніць тэатр. Жывы ж чалавек з табою размаўляе! Суперажыванне ўзнікае, пачуццё чалавечай згуртаванасці. Вось чаму і ідуць людзі на нашы спектаклі...

Зарыцкая спыняецца, глядзіць у задуменні на возера. У вадзе адбіваюцца далёкія агні ільнозавода—тры залатыя дарожкі праз люстраную роўнядзь.

— Прыгожа ў нас, праўда?— гаворыць Зарыцкая.—Дзіву даюся, што да гэтага часу тут ніхто не здагадаўся пабудаваць дом адпачынку. На Украіне колькі год была, а пра гэты куток увесь час успаміналa. Муж у мяне ўкраінец, яму таксама тут падабаецца...

Зарыцкая расказвае пра Украіну, з ёю ў яе звязана многа добрых успамінаў.

— Я, ведаеце, як украінскую мову вывучыла? — смяецца Зоя Ігнатаўна.— Пачала ўдзельнічаць у тэатральных пастаноўках. З суфлёрам вучыла...

Зарыцкая потым сама пераклала на беларускую мову некалькі ўкраінскіх п'ес. У тым ліку «Бесталанную» і «Фараонаў», аб якіх ужо ішла гаворка, а таксама п'есу «У нядзелю рана зелле капала» Кабылянскай. Зоя Ігнатаўна і зараз перапісваецца са сваімі сябрамі з братняй Украіны — аматарамі сцэны. Для іх яна пераклала на ўкраінскую мову «Паўлінку», марыць перакласці «Пінскую шляхту».

— І самі думаем ставіць гэтую п'есу. І сучасніка хочацца паказаць на ўвесь рост, у поўную сілу... Ведаеце, людзі адчуваюць голад на высокія чалавечыя пачуцці. Не, я не пра ідэальнага героя. Напэўна, калі мы выведзем на сцэне такі персанаж і скажам: глядзіце, вось ідэальны герой, усё ў ім дасканалае, ад чаравікаў да пазногцяў,—глядач стане ўпотай пазяхаць ў жменю. Людзям трэба паказваць людзей, іх саміх. Яны хочуць убачыць змагара, таго, хто імкнецца зрабіць свет больш справядлівым, хто сам жадае стаць лепш, чысцей, мудрэй. Хто і сябе не пашкадуе для светлай і высокай задачы...

— Напэўна, пра гэта вы ў сваёй новай п'есе пішаце?

— Вы пра «Глыбоцкую быль»? — Зарыцкая ўсміхаецца, нахіляе галаву.— Я ў аснову яе рэальныя падзеі паклала. Колькі высакароднасці ў нашых простых беларускіх жанчын! Напісана пакуль што ўсяго некалькі фрагментаў, усё часу не

# ЧАСОПІСЫ Ў ЛІПЕНІ

## «ПОЛЫМЯ»

«Пачакай, затрымайся...» — так называецца новая аповесць Алены Васілевіч, якой адкрываецца ліпеньскі нумар часопіса.

У раздзеле прозы надрукаваны апавяданні Янкі Брыля, Івана Навуменкі і заканчэнне нарыса Кастуся Кірэенкі «Тры месяцы ў Амерыцы».

У часопісе змешчаны заканчэнне паэмы Аркадзя Куляшова «Далёка да акіяна» і два вершы Марка Смагаровіча.

У перакладах В. Зуёнка, Ан. Клышкі і Р. Барадуліна друкуюцца вершы польскага паэта Яна Гушчы.

Крытыка і бібліяграфія прадстаўлена артыкулам Алеся Кучара «Чытаючы Максіма Танка».

У раздзеле публіцыстыкі з артыкулам «Чалавек, аўтамабіль, дарога» выступае В. Лазарэтаў.

Пад рубрыкай «Успаміны, дзённікі, дакументы» друкуецца ўрывак з новай кнігі былога начальніка штаба Першай Мінскай партызанскай брыгады Міхаіла Джагарава.

У раздзеле «Сярод кніг» чытач знойдзе рэцэнзіі Алеся Звонака на кнігу выбранай паэзіі Еўдакіі Лось «Вянцы зруба», Рыгора Бярозкіна на кнігу Міколы Кусянкова «Без прывалу», Уладзіміра Машкова на зборнік Васіля Хомчанкі «Сустрэча з цудам», Сымона Блатуна на кнігу вершаў Валянціна Лукшы «Атава», Івана Сачанкі на кніжку Ул. Чантурыя і І. Элентуха «Помнікі дойлідства Беларусі» і Міколы Жыгоцкага на кнігу Віталія Гузанава «Адысей з Белай Русі».

Артыкул А. Лойкі і Ю. Пшыркова прысвечаны 70-гадоваму юбілею Уладзіміра Дубоўкі.

## «МАЛАДОСЦЬ»

Нумар адкрываецца новымі вершамі народнага паэта Беларусі Аркадзя Куляшова. Друкуюцца вершы Фелікса Баторына, Таццяны Дзмітрусёвай і Хаіма Мальцінскага.

У раздзеле прозы — апавяданне Ніны Маеўскай, аповесць Васіля Гроднікава «Папараць цвіце на досвітку» і мініяцюры Барыса Сачанкі.

Ленінградскі пісьменнік Павел Кабзарэўскі і навуковы работнік Пятро Юрэвіч друкуюць гістарычную быль «Артылерыі падпаручык Амяльян».

«Паэт — заўсёды паэт» — так называецца артыкул Сяргея Грахоўскага, прысвечаны 70-годдзю Уладзіміра Дубоўкі.

У нумары змешчаны рэцэнзіі Уладзіміра Юрэвіча на кнігу Алеся Ставера «Пад канвоем», Дзмітрыя Гальмакова на першы зборнік апавяданняў Аркадзя Кандрусевіча «Чарпак Вялікай Мядзведзіцы», Алеся Коршунава на кнігу Вячаслава Чамярыцкага «Беларускія летапісы як помнікі літаратуры».

Пад рубрыкай «Баявы шлях камсамола» апублікаваны запіскі камсамольца 20-х гадоў Міколы Адзінца «Зара юнацтва нашага» і Алега Слукі «Так пачынаўся камсамольскі летапіс».

У раздзеле «Дзень сённяшні» змешчаны фотарэпартаж Валянціна Ждановіча аб Партызанскім праспекце нашай сталіцы і яго жыхарах.

Тэме маральнага выхавання моладзі прысвячае свае нататкі член-карэспандэнт Акадэміі педагагічных навук СССР, Герой Сацыялістычнай Працы Васіль Сухамлінскі. Прадмову да яго замалёвак напісаў Васіль Вітка.

## «БЕЛАРУСЬ»

Сёмы нумар штомесячніка адкрываецца рэдакцыйным артыкулам, прысвечаным усенароднаму святу — выбарам у Вярхоўны Савет СССР.

Аб паўнакроўным і шматгранным жыцці нашай рэспублікі расказваюць фотаздымкі, інфармацыі, рэпартажы.

Аб барацьбе беларускіх партызан на Палессі расказвае Герой Савецкага Саюза Р. Мачульскі ў сваіх нататках з другой кнігі «Вечны агонь».

У рэпартажы «Неўміручасць» Б. Лобан піша пра Хатынскі мемарыял і яго стваральнікаў — лаўрэатаў Ленінскай прэміі Ю. Градава, В. Занковіча, Л. Левіна і С. Селіханава.

У часопісе друкуюцца апавяданні М. Ракітнага— «Дзве поўні», В. Мысліўца — «На чыгунцы», нарыс Я. Пархуты— «Спелае лета», а таксама прыгодніцкая аповесць польскай пісьменніцы Дануты Маеўскай «А восьмай гадзіне вечара» (у перакладзе М. Паслядовіча).

Паэзія прадстаўлена новымі вершамі М. Аўрамчыка, А. Бялевіча, М. Арочкі, санетамі А. Звонака, а таксама творамі венгерскага класіка Ш. Петэфі ў перакладзе М. Хведаровіча.

У нумары змешчаны рэцэнзіі на кнігу «Манеўры «Дзвіна», на паэтычны дэбют А. Разанава—кнігу «Адраджэнне»,

Улас ДАРАШЭВІЧ

# ПРА ЧЭХАВА



**Аўтар нататак, успамінаў пра Чэхава, якія мы публікуем, Улас Міхайлавіч Дарашэвіч (1864—1922) — вядомы рускі прагрэсіўны журналіст, пісьменнік, тэатральны крытык, аўтар славутай у свой час кнігі пра сахалінскую катаргу, вострых судовых нарысаў і палітычных памфлетаў, якія трапна білі па царскім правасуддзі, саноўнай бюракратыі і па прадажных лідэрах рускай буржуазіі. Некаторыя з неасветленых старонак біяграфіі У. М. Дарашэвіча знаёмыя чытачам па публікацыях у нашых беларускіх выданнях. Так, напрыклад, у нарысе «Кароль фельетаністаў» («Маладосць», 1968, № 8) расказваецца, аб тым, што Дарашэвіч быў усыноўлены сям'ёй беларуса, якая і дала яму сваё прозвішча. У 1915 годзе Дарашэвіч выступіў з серыяй нарысаў, у якіх, у адрозненне ад урапатрыятычнай балбатні большай часткі рускай прэсы, праўдзіва расказваў аб пакутах насельніцтва — бежанцаў з Беларусі ў час першай сусветнай вайны («Па крыжавым шляху», «Неман», 1969, № 1).**

**Публікацыя, якую мы прапануем сёння чытачам, аб'ядноўвае матэрыялы з розных артыкулаў Дарашэвіча, у тым ліку спецыяльна прысвечаных Чэхаву. Усе яны ўзяты з газеты «Русское слово» за 1904—1907, 1910, 1914 гг. і ніколі і нідзе не ўзнаўляліся і не ўпаміналіся, бо невядомыя нават даследчыкам творчасці Чэхава. А, між іншым, гэтыя матэрыялы ўяўляюць несумненную цікавасць. У. М. Дарашэвіч і А. П. Чэхаў падтрымлівалі сяброўскія адносіны на працягу доўгіх год. Яны пазнаёміліся ў 80-я гады мінулага стагоддзя, калі яшчэ толькі пачыналі свой літаратурны шлях, як супрацоўнікі маскоўскіх гумарыстычных часопісаў.**

**С. БУКЧЫН.**

**1.**

Аднойчы, гаворачы з ім пра пані Яворскую і запэўняючы, што пані Яворская — «тэатральнае непаразуменне», я працытаваў:

«Публіка любіць тэатральныя непаразуменні, і калі б у тэатры замест п'ес даваліся непаразуменні, — зборы заўсёды былі б поўныя».

Антон Паўлавіч зарагатаў:

— Жахліва хораша! Чыё гэта?

— Пісьменнік, якога вы павінны былі б добра ведаць!

— Ч ы ё?

— Антошы Чэхантэ!

— Калі? Дзе?

— У вашым «Старым бароне».

Ён не памятаў, рашуча не памятаў свайго першага дэбюту.

Чэхаў быў тады студэнтам-медыкам. «Не да таго рыхтаваўся». І на «літаратурныя свавольствы» глядзеў як на пабочныя даходы.

Як на карэктуру, як на рэпецітарства.

«Пасваволіць» яму не давалі.

Ён сустрэў суровы прыём.

У «Страказе», у «Паштовай скрынцы», Антошу Чэхантэ так прабралі, што Чэхаў:

— Зусім быў рашыў закінуць заняткі гэтай справай.

На шчасце для рускай літаратуры, паэт М. Л. Пушкароў угадаў у юнаку літаратурны талент і ўвёў яго ў літаратары.

Першы рэдактар Чэхава — рэдактар часопісаў «Свет и тени», «Мирской толк».

**2.**

— Антон Паўлавіч! Дарагі! Ужо ж мінулі тыя часы, калі вы пісалі ў «Будильнике» і марылі, — памятаеце? — «вось зраблюся славуты, буду гаварыць басам і атрымліваць 15 капеек за радок».

— Чакайце! Яшчэ. «Ажанюся. Сам буду ляжаць на канапе і курыць. Жонку пасылаць атрымліваць ганарар у тыя рэдакцыі, дзе я працую. А цешчу — у тыя рэдакцыі, дзе я не супрацоўнічаю!»

Антон Паўлавіч успомніў пра нашага мілага, добрага сябра — выдаўца «Будильника».

—Вось «Русское слово» гаворыць: тры рублі за радок. А ён прыязджае да мяне нядаўна ў Ялту. Паскардзіўся: «Славутым, кажа, сталі, бацюхна. У «Будильник» ужо нічога пісаць не захочаце. Пішыце!» — «Дык я, — кажу, цяпер дорага бяру». — «А колькі?» — пытаецца. — «Чацвяртак за радок».

— Што-о?

Антон Паўлавіч Чэхаў! На зяніце сваёй славы!

— Чацвяртак за радок. Што ж яго палохаць? Рубель за радок! Усё роўна, ён і чацвяртак не дасць.

— А раптам бы згадзіўся?

— Не ведаеце вы яго? Ні за што не згодзіцца. Не праз скупасць, а проста: «не парадак».

— Ну і што ж ён?

— Але па-мойму і выйшла. Засмуціўся і адмовіў. Потым усім на мяне скардзіўся: «Чэхаў заганарыўся. Чацвяртак за радок хоча. Ганарараў такіх у «Будильнике» не бывала».

Цяжкую школу давялося прайсці вясёламу Антошу Чэхантэ.

Але якая чароўная далікатнасць.

Не сказаць «рубель». Навошта «палохаць» старога выдаўца, які прывык:

— Да парадку!

Якое тонкае веданне людзей.

— І чацвяртак не дасць... Антону Паўлавічу Чэхаву! «Не парадак».

**3.**

Заўсёды ўзнімалася пытанне пра «нейкі індыферэнтызм, Чэхава».

Людзі, якія ведалі Чэхава асабіста, ведалі, што гэта няпраўда.

У Чэхава былі вельмі пэўныя грамадскія ідэалы.

Як да вялікага грамадскага чалавека, праз сотні сяброў, знаёмых, прыхільнікаў, да яго даходзілі ўсе стогны і ўсе ляманты жыцця.

Ніколі гутарка з Чэхавым не праходзіла без размовы на грамадскія тэмы, без хвалявання...

**4.**

Калі А. П. Чэхава на першым спектаклі «Вішнёвага саду» віншавалі ў Мастацкім тэатры, калі праз некалькі месяцаў гаварыліся прамовы ўжо на яго магіле, калі ўсюды наладжваліся «чэхаўскія вечары», я ўсё чакаў, чакаў:

— Калі ж хто скажа пра самую вялікую працу яго жыцця?

Аб працы, якая каштавала некалькі гадоў гэтага жыцця...

Аб усім гаварылі, апрача адной кнігі Чэхава: «Востраў Сахалін».

Як быццам Чэхаў яе не пісаў.

Як быццам Чэхаў дарэмна яе напісаў...

Апавяданні Антошы Чэхантэ маюць намнога больш поспеху, чым «Востраў Сахалін».

Недзе ў газетах я чытаў водгук Л. М. Талстога аб «Востраве Сахаліне» Чэхава.

Хоць гэта надрукавана ў газетах пра Л. М. Талстога, — але на гэты раз гэта, здаецца, праўда: Талстой застаўся незадаволены кнігай Чэхава.

— Ад Чэхава можна было б чакаць большага!

А між тым, сам сціплы да сарамлівасці, Чэхаў з усяго, што ён напісаў, цаніў «Востраў Сахалін» найбольш...

Праца Чэхава не зразумета і не ацэнена.

Але гэта не перашкодзіла яму зрабіць грандыёзную справу.

Заслуга Чэхава перад тымі няшчаснымі, якіх завуць «катаргай», вялікая.

Ніхто не зрабіў для катаргі больш, чым Чэхаў.

І калі справядлівасць сапраўды мае якую-небудзь цану, дык грамадская заслуга чэхаўскага «Вострава Сахаліна» вельмі вялікая...

Вы толькі падумайце: катарга кіруецца па статуце для ссыльных, выпрацаваным... пры Сперанскім!

Характэрна, што на падставе ніводнай афіцыяльнай справаздачы не было ўведзена ніводнага паляпшэння ў быце катаргі.

Нібы справаздачы пісаліся з Аркадзіі шчаслівай!

Адны гаварылі:

— Усё добра!

Таму што ім было хораша. Вельмі многа ўлады і дастаткова грошай. Катарга дае магчымасць служыць такім, каму ніякага месца ў Расіі не знойдзецца. Мільёны, якія траціць казна на катаргу, добра атрымліваць і надалей.

Яны тэлеграфавалі ў Пецярбург:

— Працай ссыльна-катаржных пракапаны тунель, які злучае дзве акругі: Аляксандраўскую і Дуйскую. Просім дазволу назваць яго Аляксандраўскім.

Ім з Пецярбурга прысылалі дазвол, падзякі, узнагароды.

Не маглі ж ведаць у Пецярбурзе, колькі народу загінула пры будоўлі гэтага тунеля, і што па ім ездзіць немагчыма.

Яны тэлеграфавалі:

— Закончана Анорская прасека, якая злучае паўночны Сахалін з паўднёвым.

З Пецярбурга зноў прысылалі падзякі і ўзнагароды.

Толькі потым, — многа пазней, — у Пецярбурзе даведаліся, што на гэтых страшных работах даходзіла да людаедства, што ў выніку сотень замучаных, — і як замучаных, — людзей прасека непраходная «па прычыне глыбокай тундры».

Другія, што прыязджалі з Пецярбурга, захопленыя ўладай, пашанай, сустрэчамі, помпай, пакланеннем, рабствам, давалі сябе ашукваць.

Нікога так не лёгка ашукаць, як чалавека, які хоча быць ашуканы.

Вось зусім дакладны расказ пра паездку адной асобы з Пецярбурга.

Прыязджае асоба ў пост Аляксандраўскі. У жонкі наглядчыка турмы, клапатлівай гаспадыні, цудоўная аранжарэя.

— Але ж, катаржане свае!

«Асобе» за абедам падаюць кавун.

— Кавун?! Ды які?! — здзіўляецца «асоба». — У вас на Сахаліне растуць кавуны?

— Так точна, ваша-ства.

«Асоба» едзе ў пасяленне Дзярбінскае.

Наперадзе на тройцы маленькіх, але вельмі шустрых лахматых сахалінскіх коней імчаць кухар, які зарэзаў сваю жонку, і аранжарэйныя кавуны з Аляксандраўска.

У Дзярбенскім абед, і на дэсерт зноў нясуць кавун.

— І тут кавуны?! — прыемна ўражана «асоба».

— Так точна, ваша-ства. Усюды.

«Асоба» едзе ў Рыкаўскае.

А наперадзе — кухар з кавунамі.

І ў Рыкаўскім нясуць цудоўны, з лёду, халодны кавун.

— І тут кавуны?!

— Яшчэ больш на поўдзень, ваша-ства.

— Ды у вас Маларосія! Сапраўдная Маларосія.

— Так точна, ваша-ства!

І асоба імчыць назад на перакладной тройцы і з задавальненнем паглядвае на зарослыя шчаціністым лесам горы, на глыбокія ўпадзіны, якія праносяцца міма.

— Маларосія! Сапраўдная Маларосія!

І ў Пецярбургу справаздача аб паездцы:

— На Сахаліне ўсюды спеюць кавуны.

Так іменна стваралася легенда пра Сахалін, як пра першакласную земляробчую калонію.

Гэта каштавала многа мільёнаў.

Трэція, нарэшце, прыезджыя з Пецярбурга, не хацелі быць ашуканымі і не давалі сябе ашукаць.

Хацелі бачыць праўду. І прыблізна бачылі.

І абураліся:

— Гэта ж бог ведае што!

І ад'язджалі, абураныя да глыбіні душы.

І абураліся ўсю дарогу.

Ні прыгажосці Нагасакі, ні раскоша прыроды Сінгапура, ні ўсё хараство Каломба не маглі прагнаць гэтага абурэння.

А прыязджалі ў чэзлае балота Пецярбурга і абурэнне ўлягалася.

Якая магутная прырода Пецярбурга!

«Узгаднілі мясцовыя паведамленні з пецярбургскімі патрабаваннямі».

Стараліся не зачапіць таго, не пайсці ўразрэз з тым, не абвергнуць вельмі рэзка таго, — і ў выніку выходзіла:

— Н-нядрэнна!..

Калі б А. П. Чэхаў застаўся толькі белетрыстам, — пры яго таленце якія б старонкі ён даў. Якія б сюжэты ён знайшоў.

Ім застаўся б задаволены сам Л. М. Талстой.

Калі б, замест мяккасці, у яго характары была здольнасць да жорсткасці, да абвінавачвання, нават да пракляцця, — якія публіцыстычныя артыкулы выліліся б з-пад яго пяра!

А ён заняўся нейкай статыстыкай!

Перад ім былі вялікія шэрыя пасяленні.

Нібы велізарныя кучы гною.

На дзіўнай сахалінскай гаворцы так і гаварылі:

— Каторжные навоза такого-то года.

Нібы каламбурам хацелі сказаць праўду.

Але гэта ж былі жывыя людзі.

І ўсё, што было чалавекам, літаратарам, урачом, залатым сэрцам, ясным розумам, — усё абурылася ў Чэхаве ад гэтага ганьбавання людзей як гною.

І ён узяўся раскопваць гэтыя кучы, збіраць дакладныя дадзеныя і лічбамі, фактамі маляваў нам карціну таго, як жывуць людзі, якіх пасылаюць на Сахалін.

Гэта былі першыя дакладныя дадзеныя пра жыццё катаргі.

З куч гною, асуджаных дагніваць, узняліся жывыя людзі, і мы пачулі іх галасы пра іх патрэбы, журбу, холад і голад.

Чэхаў «чыстую» і прыемную работу белетрыста прамяняў на чорную і «брудную» работу збіральніка статыстычных матэрыялаў.

У нас гэта выклікала ў Пецярбургу толькі адзін крык абурэння:

— Ах! І навошта гэта пусцілі на гэты пракляты востраў пісьменніка?!

**5.**

Чэхаў, Чэхаў-рэаліст, Чэхаў — самы праўдзівы з рускіх пісьменнікаў. Чэхаў, які ні разу не схлусіў у літаратуры, Чэхаў, які як медык, усё будаваў на эксперыментах, на фактах, на «журботных лістах» жыцця, Чэхаў, у творах якога знаходзілі нават «партрэтнае падабенства».

Чэхаў — сама праўда.

**6.**

Дзесяць гадоў назад у гэты дзень у Мастацкім тэатры ўся зала, падняўшыся як адзін чалавек, стоячы, апладзіравала горача і з захапленнем.

І толькі таму, да каго несліся апладысменты, крычалі:

— Сядайце!.. Сядайце!

Антон Паўлавіч Чэхаў быў хворы і слабы.

Ён не хацеў гэтага віншавання.

Ён быў сціплы ў коле самых блізкіх сяброў.

Калі былі тры пабочныя чалавекі, — ён рабіўся сарамяжлівым...

На сцэне стаяў у шэранькім пінжачку, такі просты, без усялякай позы, мілы чалавек. Яшчэ малады. Але з сівізной. З тварам, пакрытым дробнымі маршчынкамі. З пяшчотнымі вачыма. З крыху разгубленай усмешкай.

На яго глядзелі з любоўю.

Уся зала глядзела іменна з любоўю.

Нібы:

— Спяшылі наглядзецца.

І думалі:

— Ці ўдасца яшчэ ўбачыць?

І ў гэтым было нешта балючае.

І тое, што для ўшанавання выбралі першы, які надараўся, выпадак:

— Пастаноўку «Вішнёвага саду».

І прысутнасць на ўшанаванні Малога тэатра.

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ

Рыгор БОХАН

## ВЫПАДКІ

— Што гэта піша наш тата, Леначка?
— Пісьмо бабулі.
— Адкуль жа ты ведаеш?
— Бо ён піша правай рукой.

□

— Выганю з работы! Працверазееш — падасі заяву аб звальненні па уласным жаданні.

□

— Няўжо вы думаеце, што я буду есці гэты боршч? Паклічце загадчыка.
— Гэта дарэмна. Ён таксама не будзе есці,— адказала афіцыянтка.

□

— Бацюхны! Ты ж увесь пакусаны! Хто цябе так?
— Уласны сабака. Учора прыйшоў дадому цвярозы, дык не пазнаў, падла.

□

— Зірні, колькі я рыбы насушыў.
— Дык ты ж на пяць дзён больш за мяне на бюлетэні сядзеў!

□

— Ты адправіў сваю жонку на поўдзень?
— Адправіў. Каб ты ведаў, як мне быў патрэбен гэты адпачынак.

Лявон КУДЛА

## У АНТРАКЦЕ

— Ці ж гэта ігра? — Чалавек у пазалочаных акулярах сербануў глыток піва са шклянкі і паморшчыўся. — Не тое...

— Чаго, а мне падабаецца, — запярэчыў адзін з хлопцаў, якія сядзелі за столікам тэатральнага буфета.

— Значыць вы, малады чалавек, не бачылі сапраўднай ігры. Так, не крыўдуйце. А я бачыў. Граў з самім Качалавым Васілём Іванавічам на сцэне Маскоўскага Мастацкага акадэмічнага тэатра.

Хлопцы з цікавасцю паглядзелі на яго.

— Вы акцёр?

— Спрабаваў у гэтым жанры, — адказаў абыякава чалавек у пазалочаных акулярах і сербануў яшчэ. — А Качалаў мяне паважаў. Сам вызначыў мне месца: гэтую ролю толькі Фёдар Іванавіч выканае. Прабачце, крыху не так, я тады малады быў, і ён называў мяне па-сяброўску — Федзя... Але...

— Што? — не цярпелася маладым тэатралам, таму што якраз празвінеў першы званок.

— Асечка атрымалася. Разыйшоўся я з Качалавым.

Фёдар Іванавіч прыгубіў са шклянкі.

— Вы, калі ласка, хутчэй расказвайце, а то антракт скончыцца.

— М-да, антракт. Дык вось, было гэта яшчэ да вайны. МХАТ паказваў спектакль з удзелам Качалава і... маім. Поспех быў напэўны. Але я падкачаў. Вінаваты быў не я, а гэты самы клоп. Дробязь, а ледзь было не сарвала прадстаўленне. Вось як бывае на сцэне.

Фёдар Іванавіч выпіў яшчэ глыток.

— Дык так, аб чым гэта я...

— Аб насякомым...

— М-да, тым самым... Увявіце — сцэна. У глядзельнай зале сядзяць і на прыстаўных крэслах. Аншлаг. Я стаю ля самай рампы. На мне рыцарскі шлем, латы. Не толькі варушыцца, вейкамі нельга лыпнуць. І раптам гэтае самае насякомае запоўзала па карку. І адкуль яго прынесла. Ці то ў рыцарскіх доспехах прысох, яшчэ з тых часоў, ці то хто са студэнцкага інтэрната прынёс. Стаю, як на гарачай патэльні, курчуся, тузаюся, а публіка ў смех. Качалаў зірнуў на мяне так, што душа мая ў пяткі падалася. А клапу нічога. Кусае, цярпення няма. Пацепваюся... Неяк дастаяў да канца сцэны. А як толькі заслона апусцілася, кінуўся за кулісы і скінуў чортавыя латы.

Сябры мае — статысты, такія ж, як і я, студэнты (мы падраблялі ў тэатры на харчы), гавораць: «Федзя, Качалаў цябе шукае». Уявіў я сабе, што мяне чакае, і ходу з тэатра.

Зазвінеў другі званок.

— І на тым скончылася ваша тэатральная кар'ера?

— Можна сказаць, што так. Але слухайце далей. Праз некалькі дзён хлопцы ідуць па ганарар. Клічуць і мяне. А чаго мне ісці? Плаціць мне за што? Ледзь не праваліў спектакль.

— А на ўсякі выпадак давай пойдзем.

Угаварылі неяк.

— Ну, пойдзем,—кажу,— губляць мне няма чаго.

Прыйшлі. Мае сябры атрымалі грошы. Сую і я нос у касу, называю прозвішча.

— Калі ласка, распісвайцеся, — кажа касірка.

Распісаўся. Атрымаў грошы. Прыемна, зразумела. Хлопцы таксама рады за мяне. А касірка паварочваецца.

— Тут вам яшчэ запісачка.

Узяў запіску. Ад самога Качалава. Прачытаў. Яшчэ большая крыўда на сябе: вялікі артыст запрашае на работу, а я чым за гэта аддзячыў?

І сёння шкадую, што не пайшоў — пасаромеўся. А калі б пайшоў, магчыма, і заслужаным стаў бы...

Зазвінеў трэці званок. Фёдар Іванавіч устаў і, не дапіўшы піва, пайшоў за моладдзю ў глядзельную залу.

## ПАД ЛІПЕНЬСКІМ СОНЦАМ

Малюнкі з часопіса ГДР «Дас магазін».



— Добра, добра! Атрымаеце ролю ў маім фільме!



Смага.



Кавалеры.

Хрыста РАДЗЕЎСКІ

## НАЗОЙЛІВЫЯ МУХІ

Усё магу я дараваць у недарэчнасцях прыроды, але тое, што мухам дадзены крыллі—ніколі!
Дзімітр ПАДВЫРЗАЧАЎ.

Брыду гэту ведае ўсякі —
Ля ўсіх яны кружацца сквапна.
Гаподныя равуць, як сабакі,
І сытыя лезуць нахабна.

Заўсёды і ўсюды суюцца,
Куды іх не просяць, не клічуць.
То зумканнем нервы псуюць вам,
То лапкамі зноў жа казычуць.

Вы сядзеце дома пад'есці —
А муха на хлеб ваш садзіцца.
Не ўспееце лыжку паднесці —
Паспее ў ёй муха ўтапіцца!

За працай вы ці на спачынку —
Ваш нос ёй спакусны і любы.
Адгоніце — хоп!—праз хвілінку
Яна вам ускочыць на губы.

З агідаю сплюнеце долу,
А муха — паганая муха —
То пройдзе па лысіне голай,
То ў вока парнецца, то ў вуха...

Ад гнюсу вам зробіцца млосна,
І вы папракнеце ў бяссіллі:
«Прырода, прырода, як моцна
Зграшыла ты, даўшы ім крыллі!..»

Ды гэта ўсё мухі сезону —
Ад мая да слоты асенняй.
Двухногія мухаперсоны
Страшней за крылатых стварэнняў,

Назойліва, нібы аслепшы,
Яны вас за роднага лічаць,
За сябра найлепшага з лепшых,
Каб гонар уласны ўзвялічыць.

Вам проста цярпець іх нязмога —
Яны ж вас пад ручкі праводзяць.
І, не пабаяўшыся бога,
У госці дадому заходзяць!

Вы клейміце гнеўна, няшчадна
Нахабства у словах найгрозных,
Яны ж вам ківаюць спагадна:
«Так, многа нахабнікаў розных!..»

Згадзіцеся, братцы, са мною,
Што гэта нялёгкія мукі.
Усім нам — упэўнен даўно я —
Абрыдлі нахабныя мухі!

Пераклаў з балгарскай мовы Ніл ГІЛЕВІЧ.

Павел ШЫБУТ

## ШРАЦІНКІ

● *Ісціна не народзіцца, калі спрачаюцца два аслы.*

● *Іншы і рад паказаць зубы, ды дзе іх узяць.*

● *Ідзі, не азіраючыся. Менш зносіцца шыя.*

● *— Чаго крычыш? — гаварыў пажарнік тапельцу.— У цябе ж не гарыць!*

● *Не спяшайся пісаць. Хіба ты думаеш, што цябе спозняцца прачытаць?*

● *Аўтар меў свой почырк толькі тады, калі распісваўся ў ганарарнай ведамасці.*

● *Не плюй, не зірнуўшы, адкуль дзьме вецер.*

● *Ён больш баяўся рэдактара, чым чытачоў, бо ведаў, што яго твор да іх можа і не дайсці.*

● *Блыха ільва не баіцца.*

● *Ад самакрытыкі яшчэ ніхто не паміраў.*

● *Ён не мог быць вучоным па стане здароўя: у яго не варыла галава.*

● *30 гадоў памыляўся, 30 наступных — каяўся, а ў 60 пайшоў на пенсію.*

● *Ворагаў яшчэ не набыў. Толькі паспеў пасварыцца з сябрамі.*

● *Для смаўжа і купіна —Алімп.*

● *Злодзея злавілі за... нагу.*

● *У душу ўваходзяць без стуку.*


«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.
Друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856.   АТ 21021

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25 25 адказнага сакратара—33-44 04. аддзела літаратуры—33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі—33-24 62. аддзела выяўленчага мастацтва архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62 аддзела культуры—33-21-53, выдавецтва—32-22 19. бухгалтэрыі — 32-15 87.

Рукапісы не вяртаюцца.